

# Іван Чыгрынаў

## Следчая справа Вашчылы

*Драма ў дзвюх дзеях*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Васіль Вашчыла – кіраўнік Крычаўскага паўстання на Магілёўшчыне.
Іван Карпач, Стась Бочка – войты.
Іван Бочка – пісар праўлення.
Мікола – сотнік.
Мартын – меншы Вашчылаў сын.
Лявонцьеў – генерал-губернатар у Кіеве.
Бястужаў-Румін – граф.
Максімовіч – палкоўнік старадубскі.
Гарнастаеў – прэм'ер-маёр.
Карчмар у Кіеве.
Карчмар па дарозе ў Мглін.
Карчмар у Старадубе.
Манах.
Шленца – ротмістр літоўскай харугвы.
Пішчык – шляхціч.
Геранім Радзівіл – літоўскі падчашы, князь.
Афіцэр.

Судзейскі.
Стражнік першы.
Стражнік другі.
Рэйтар.
Чорны дзяцюк.
Дойліды.
Драгуны.
Княская варта.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### Карціна першая

Кіеўская губернская канцылярыя. За сталом – генерал-губернатар Лявонцьеў. Насупраць, але трохі збоку, стаіць з паперамі для даклада прэм'ер-маёр Гарнастаеў.

Гарнастаеў. І яшчэ, ваша вышэйшасць *(падае генерал-губернатару чарговую паперу)*, складзены пашпарт на імя перабежчыка з-за польскай граніцы Васіля Вашчылы. Чакае вашага подпісу.

Генерал-губернатар бярэ аркуш, хоча напісаць від на жыхарства, але нечага задумваецца, кладзе на край стала.

Лявонцьеў. Што ён за чалавек?

Гарнастаеў *(бярэ другі аркуш)*. Згодна з допытам, які ўчынены на Цімошынскім фарпосце, Васіль Вашчыла, сын Мацея, даў наступныя паказанні сяржанту Сафронаву: гадоў ад нараджэння яму пяцьдзясят чатыры; нарадзіўся ў Старадубскім палку Почапскай сотні ў сяле Чамаданаве, дзе бацька яго і маці жыхарства мелі і там памерлі, а браты яго, Мацей, Яфрэм і Сямён, таксама Мацеевы дзеці, у сяле Бунушава за Бунчыковым таварышам Аляксандрам Карэцкім і цяпер жывуць. За польскую граніцу перайшоў гадоў дзевятнаццаць таму назад і жыў там за князем Радзівілам у Падданстве на Крычаўшчыне, у сяле Сілічы па сёлетні, семсот сорак чацвёрты год.

Лявонцьеў. Што яго змусіла зноў перакінуцца ў Расію?

Гарнастаеў. Тлумачыць, што жыць у старастве стала цяжка, не хоча заставацца больш на чужой старане.

Лявонцьеў. Цяпер не хоча, а тады хацеў! Дзе ён цяпер, гэты Вашчыла?

Гарнастаеў. Трымаем у Пячэрскай турме.

Лявонцьеў. Вось што, прэм'ер-маёр, мне хочацца самому паглядзець на гэтага чалавека. Пагаварыць з ім. Справа ў тым, што за князем Радзівілам у Крычаўскім старастве

шмат падданых Яе Імператарскай Вялікасці. Гэта дакладна вядома. Але ўсе яны беглыя з Расійскай імперыі. Па загаду Калегіі замежных спраў нам належыць пачаць перамовы з польскімі ўладамі, каб вярнуць адтуль расійскіх падданых. Думаю, што гэты Вашчыла многае ведае і з яго слоў можна шмат высветліць. Магчыма, што якраз з яго дапамогай нам удасца схіліць некаторых добраахвотна перайсці ў Расію.

Гарнастаеў. Калі вашай вышэйшасці будзе прыстойна дапытаць перабежчыка?

Лявонцьеў. Марудзіць не стану. Самі разумееце, справа дзяржаўная. Граф Бястужаў-Румін ужо каторы месяц запытанні шле. Я, прызнацца, доўга раздумваў, як падступіцца да гэтай справы, з якога боку, але цяпер... раз гэты Вашчыла ў нас, можа, сапраўды самы зручны выпадак настаў. Пашліце, прэм'ер-маёр, рэйтара ў турму, няхай даставіць перабежчыка.

Гарнастаеў. Будзе зроблена, ваша вышэйшасць.

У пакой у суправаджэнні рэйтара заходзіць Васіль Вашчыла. Генерал-губернатар доўга глядзіць на яго.

Лявонцьеў. Значыць, не захацеў жыць за граніцай?

Вашчыла. Так.

Лявонцьеў. А чаму тады бегаў туды, у Польшчу?

Вашчыла апускае галаву.

Гэта добра, што вярнуўся на радзіму. Але скажы мне — ты не раскольнік?

Вашчыла. Не, я праваслаўны.

Лявонцьеў. Ну, гэта вядома, што праваслаўны. Я пытаюся — не раскольнік?

Вашчыла. Не, я правільнай веры.

Лявонцьеў. А іншыя людзі з нашай імперыі, што перайшлі жыць за мяжу, раскольнікі?

Вашчыла. Раскольнікі сярод іх таксама ёсць. Але ў Крычаўскім старастве, дзе мы жывём за князем Радзівілам, а раней — за яго маткай Ганнай Радзівіліхай, амаль скрозь усе правільнай веры. Старавераў, можна сказаць, у нас не дужа

любяць. Тыя ўсё сваім гуртам неяк. Але таксама трэба сказаць — асядаюць больш пад Гомлем і далей туды, ажно пад Латгалію.

Лявонцьеў. У каталіцкую веру не пераходзяць?

Вашчыла. Мы трымаемся сваёй, але апошні час пачынаюць расказваць пра сваю рэлігію ўніяцкія святары.

Лявонцьеў. Матухна імператрыца, Елізавета Пятроўна, якая ў нас цяпер правіць, хацела б, каб былыя падданыя нашага царства зноў вярнуліся ў Расію. Што іх трымае там?

Вашчыла. У кожнага свая прычына.

Лявонцьеў. Ну, а ў цябе, якая прычына была ў цябе? Што ты шукаў там, у Польшчы?

Вашчыла. Волю.

Лявонцьеў. А тут, у Рассіі, няма яе?

Вашчыла маўчыць.

А мог бы ты вярнуцца назад ў Польшчу?

Вашчыла доўга глядзіць на генерал-губернатара.

Вашчыла. Навошта мне будзе вяртацца, ваша светласць, калі я адтуль уцёк?

Лявонцьеў. Гэта мы з табой ведаем, што ты ўцёк. А можна зрабіць выгляд, што ты нікуды не адлучаўся са сваёй вёскі. Як яна хоць завецца?

Вашчыла. Сілічы. Гэта адразу за граніцай. За фарпостам у Латаках.

Лявонцьеў. Ну вось, зробіш выгляд, што ездзіў да знаёмых у суседнюю вёску. Дарэчы, чым ты займаўся ў старастве? Якую маёмасць меў?

Вашчыла. Войтам быў у Сілічах.

Лявонцьеў. Значыць, панам быў?

Вашчыла. Я чалавек выбраны.

Лявонцьеў. І што ж здарылася, што не захацеў войтам служыць?

Вашчыла. Не стала жыцця за князем. Люты. Арандатараў разбэсціў. Ліхвярам патурае. Ат, ці мала што!..

Л я в о н ц ь е ў. У мяне вось тут гатовы на цябе пашпарт для пражывання ў межах Расійскай імперыі. Вось ён, ляжыць. Але цяпер бачу, што птушка да нас з-за польскай мяжы заляцела няпростая. *(Бярэцца за кутас, торгае.)*

Чуецца званок. Заходзіць п р э м ' е р - м а ё р Г а р н а с т а е ў.

Пакажыце мне пратакол допыту з Цімошынскага фарпоста. Хачу пазнаёміцца.

Гарнастаеў дастае з папкі аркуш, падае генерал-губернатару. Той чытае.

Тут нідзе не пазначана, што ты быў войтам?

В а ш ч ы л а. Мяне пра гэта не пыталі.

Л я в о н ц ь е ў. Мог сам сказаць.

В а ш ч ы л а. Дык...

Л я в о н ц ь е ў *(да Гарнастаева).* Вы можаце ісці, прэм'ер-маёр. І вы — таксама, рэйтар.

Рэйтар стаяў праз усю размову генерал-губернатара з Вашчылам ля дзвярэй.

Наколькі я пачаў разумець, ты не пра ўсё расказаў сяржанту Сафронаву на фарпосце. Але мы справу да канца даследуем. Цяпер... пра тваё вяртанне ў Польшчу. Ці змог бы ты, вярнуўшыся туды, дапамагчы нам угаварыць былых падданых Яе Імператарскай Вялікасці перайсці зноў у Расію?

В а ш ч ы л а. Не ведаю.

Л я в о н ц ь е ў. А ты падумай, войт.

Генерал-губернатар зноў торгае за кутас. Заходзяць п р э м ' е р - м а ё р і р э й т а р.

У крэпасць. *(Ківае галавой на Вашчылу.)* Але няхай там не чыняць войту лішніх перашкод.

В а ш ч ы л а з р э й т а р а м выходзяць.

А вы, Іван Раманавіч, падрыхтуйце ліст у Калегію замежных спраў адразу на імя графа Бястужава-Руміна. Здаецца мне,

што гэтага Вашчылу можна будзе скарыстаць у той справе, пра якую клапоціцца калегія.

Гарнастаеў. Згаджаецца?

Лявонцьеў. Будзем дамагацца. Але, як я зразумеў, чагосьці баіцца. Ці не стаіць за ім віна, можа, у бунце цяперашнім замешаны, бо нездарма гэтак насцярожваецца, калі схіляеш да вяртання. Ва ўсякім разе, такога жадання ў ім пакуль не відаць. Значыць, трэба дадаткова высветліць, што ён за чалавек! Нутром чую, ёсць нейкая загадка. Перадайце, Іван Раманавіч, загад у крэпасць – перавесці нашага госця, сілічоўскага войта, у лепшую камеру, прыставіць да нагляду разумнага манаха. Не можа быць, каб чалавек не адгукнуўся на ласку. А вы, прэм'ер-маёр, тым часам пашліце ганца ў Старадуб да палкоўніка Максімовіча. Дзе Вашчыла паказвае, што нарадзіўся?

Гарнастаеў. У сяле Чамаданава Почапскай сотні.

Лявонцьеў. Ну вось, няхай сотнік почапскі гэтым і займецца. Можна нават адразу даручэнне маім загадам аддаць туды. Мы ж тут будзем спадзявацца пакуль на манаха. Падбярыце такога сярод пячэрскай брацііі, такога, хто ўжо аказваў нам падобныя паслугі і ў крэпасці свой чалавек. Ды не дужа нявольце самога Вашчылу. Асабліва карміце добра. Паразуменне часцей за ўсё праз страўнік да людзей прыходзіць. Няхай адчуе, што ў нас у ім сапраўды патрэба.

## Карціна другая

Вашчыла ў камеры Пячэрскай крэпасці. Ходзіць па камеры. Спыняецца каля сцяны, стукае ў адчаі па ёй кулаком і доўга стаіць так, апусціўшы галаву.

Вашчыла. Дзе вы, мае баявыя сябры? Відаць, быў я кепскі атаман, раз апынуўся тут, у Кіеве, і не ведаю, што цяпер робіцца ў Крычаве. І ці правыя вы ўвогуле, бо князь Радзівіл нікому не даруе. Я добра ведаю яго. Усе мы добра ведаем яго. І ці ўсё мы зрабілі так, як трэба? А галоўнае,

чаму здарылася, што княская конніца напала знянацку? Значыць, нехта прадаў нас? Хтосьці прывёў князевых слуг у Царковішча па нашых знясіленых слядах?

Вашчыла адхінаецца ад сцяны, падыходзіць да лаўкі, што стаіць пры другой сцяне, кладзецца.

Праз успамін узнікае на другім краі сцэны хата ў Царковішчы, паўстанцкі штаб. Тут Вашчылавы паплечнікі па паўстанні – войты: Іван Карпач, Стась Бочка. Пісар паўстання, Стасеў сын Іван Бочка, сотнік Мікола. На тапчане, што паміж сцяной і печкай, спіць падлетак, Вашчылаў сын Мартын. Вашчыла сядзіць за сталом, ашчаперыўшы галаву, цяжка думае. Нарэшце страсае з сябе клопат, усё роўна як насланнё, гаворыць.

Вашчыла. Што будзем далей рабіць, войты? Бітва за Крычаў нашым войскам сянні ганебна прайграна... Гэта ўжо й малому ясна!..

Карпач. Твая праўда, войт,– прайграна. Цяпер зноў нам да Крычава няскора падступіцца.

Бочка. Але мы сваю сілу таксама паказалі. Запомніць князь, што з намі не так сабе мерацца.

Вашчыла. Я ажно да ўчарашняга дня спадзяваўся ў душы, што да крычаўскіх харугваў не паспее падысці артылерыя з Невеля. Але дарэмна. Яна вось і вырашыла ўсё на карысць князя. Дарэчы, а колькі ў нас засталося гармат?

Карпач. Ніводнай, войт. Усе пакінуты там, пад Крычавам.

Вашчыла. А ці палічыў хто паўстанцаў? Колькі вас пасля бітвы засталося?

Бочка. Многа, войт. Асабліва – конных. Пешыя ці то адсталі, ці то разбегліся. Аднак людзей яшчэ хапае.

Вашчыла. Дзе ж яны ўсе размесцяцца тут, у Царковішчы? Хат жа небагата.

Бочка. Частка тут, а іншым – у Семенаўку загадана перайсці. Трэба спадзявацца, што і па іншых вёсках нашыя заначуюць.

Вашчыла. Да раніцы няхай спяць... Усё-такі што будзем рабіць заўтра, войты, як паўстанцы прачнуцца? Наступаць на Крычаў без гармат ужо нельга.

Карпач. Трэба дачакацца вясны. Заўтра адступім на край староства, хоць бы за Бесядзь альбо нават у тваю воласць, войт, каб апынуцца бліжэй да рускай граніцы, ну і перачакаем астатак зімы, а там разводдзе, вясна. І цяпер ужо снег ледзьве трымае каня. Так што князь не стане пасылаць па бездарожжы наўздагон свае харугвы. Ды і пашкуматаны яны за гэты час моцна. Ну, а па сухіх дарогах, пасеяўшы сядзібы, зноў можна будзе рушыць на Крычаў, на першае адсюль князева логава, а там, дасць Бог, і на Слуцк некалі павернем свае атрады.

Бочка. І на Вільню.

Вашчыла. І на Белую, за Бярэсце. Вас, войты, толькі паслухаць!.. Але ж сянні, трэба прызнаць, мы разбіты!.. Князевы харугвы аказаліся мацнейшымі за наша сялянскае войска.

Карпач. Не карай сябе, войт! Ці першы раз мужыкам даводзіцца трапляць у такое становішча. Гэта ты малады, ну, калі не па гадах, дык па вайсковаму прыкладу, а я ўжо з Радзівіламі барукаюся даўно. І з маткай гэтага Геранiма дужаўся, цяпер вось з ім выпала.

Вашчыла. Але ж дзед мой Пацей нездарма гаварыў – раніца мудрэй за вечар. Ідзіце па хатах, войты, кладзіцеся спаць. Ты ж, сотнік Мікола, паглядзі на пасты. А мы з Іванам *(ківае на пісара)* станем кумекаць тут, што да чаго, відаць, новыя адозвы ўжо зранку трэба па валасцях пасылаць.

Карпач. Разумна рассудзіў, войт,– адозвы край патрэбны цяпер. А пасылаць сапраўды не шкодзіць. Дый позна ўжо. Вунь Мартын твой ужо, няйначай, каторы сон сніць. *(Смяецца, гледзячы на тапчан.)*

Войты разыходзяцца. Вашчыла з пісарам застаюцца ў хаце адны. Іван Бочка дастае з мяшэчка бутэльку з чарнілам, разгортвае з палатнянага шкумата гусінае пяро. Кладзе на стол скруткі паперы. Але да Вашчылы не паспявае падсесці. Раптам на двары чуюцца крыкі і стрэлы.

Вашчыла. Што гэта?

Пісар. Няйначай, напіліся мужыкі... А мо пасварыліся...

Вашчыла слухае шум, той усё расце.

В а ш ч ы л а. Не, гэта штосьці іншае, пісар. І не п'янка, і не сварка. Глянь-тка на вуліцу!

Але пісар не паспявае выйсці з хаты. Уросхрыст расчыняюцца дзверы, цераз парог пераскоквае с о т н і к М і к о л а.

С о т н і к. Здрада, войт! Драгуны ў вёсцы! Сякуць шаблямі нашых!

В а ш ч ы л а. Дзе Бочка? Дзе стары Іван?

С о т н і к. Драгунамі схоплены!

В а ш ч ы л а. А іншыя, дзе ўсе нашы?

С о т н і к. На вуліцы паніка! Але нашы ўсё яшчэ б'юцца, дарма што драгуны напалі на вёску знянацку. Лічы, усе спалі.

В а ш ч ы л а. Адкуль яны ўзяліся, драгуны?

С о т н і к. Не ведаю..

Вашчыла нейкі час пакутліва маўчыць.

В а ш ч ы л а. Будзі, Мікола, сына майго. Сядайце на коні, няхай ён возьме майго каня на стайні, і ратуйцеся. Ты цяпер будзеш адказваць мне за сына. Схавай у надзейным месцы. У старастве, трэба думаць, знойдзецца недзе надзейны куток? Знайдзі такое месца, да магілы буду ўдзячны, Мікола?

Адчыняюцца дзверы. На парозе з'яўляюцца к н я с к і я д р а г у н ы. Вашчыла выхоплівае з-за пояса пістолю, страляе ў аднаго драгуна. Той падае. Другі драгун кідаецца назад. Сотнік Мікола зачыняе за ім дзверы.

*(Да сотніка.)* Будзі сына!

Мартын ужо ад стрэлу прачнуўся і праціраe рукамі вочы.

М а р т ы н. Тату!..

В а ш ч ы л а *(кідаецца да яго).* Уцякай, сынку. Вось з Міколам! У нас тут, здаецца, новая бяда. *(Зноў да сотніка.)* Не затрымлівайся, Мікола, бяры Мартына. А я на вуліцу, да войска!

За акном чуюцца стрэлы. Хтосьці зноў спрабуе адчыніць дзверы ў хату, але Вашчыла страляе па іх з другой пістолі. Страляе туды і пісар Бочка. Сотнік выбівае нагой акно, цягне за сабой праз яго Вашчылавага сына. Бітва ў Царковішчы пастуцова заціхае...

У камеры Пячэрскай турмы на лаўцы ляжыць Вашчыла. Ужо світанак. Чуюцца званы Кіева-Пячэрскай лаўры.
У камеру заходзіць манах. Ён нясе шайку з вадой. Будзіць Вашчылу.

Манах. Прачынайся, замежны госць, прачынайся. Чуеш, ужо звоняць да ютрані ў нашай лаўры.

Вашчыла падхопліваецца, бачыць незнаёмага чалавека ў камеры.

Вашчыла. Хто ты?

Манах. Тутэйшы, з лаўры. На паслугі пастаўлены да цябе. Умывайся, вось шайка з вадой стаіць. А тады прынясу паесці. Не забудзь лоб перад сняданкам перахрысціць. А можа, пара ўжо і да споведзі?

Вашчыла пачынае мыць над шайкаю твар, грудзі.

Вашчыла. Спавядацца мне пакуль няма ў чым. Грахоў яшчэ не паспеў нарабіць, каб спавядацца ў іх.

Манах. Усе мы – грэшнікі. Грэшныя перад Богам нават тыя, што і не здагадваюцца пра гэта.

Вашчыла. Які ж гэта грэшнік, калі не ведае, што грэшны.

Манах. Усе мы грэшныя. Усім нам ёсць у чым спавядацца. Нават гасподнія шляхі невядомы, а нашы...

Вашчыла. Нічога, ойча. Споведзь пачакае. А вось памаліцца Богу не лішне будзе. Шкада, што позна разбудзіў. А то б у гэту ютрань і памаліўся. Ёсць за каго ў мяне маліцца.

Манах. А за сябе?

Вашчыла. Што з таго, каб маліцца толькі за сябе!..

Манах *(сядае на лаўку, на якой спаў Вашчыла)*. Я спытаю дазволу ў генерала, каб табе маліцца разам з брацiяй.

Вашчыла. Не варты я такога дазволу.

Манах. Усе мы грэшныя, брат мой. Але, бачу, важная персона ты. І камеру табе памянялі на лепшую, і наглядчыка адмянілі – папрасілі мяне вось, Божага чалавека, памагаць.

Вашчыла. Чаму раптам цябе?

М а н а х. Нашы тут, у крэпасці, часта розныя паслугі аказваюць. Арыштантам таксама. Вось і мяне папрасілі сёння пахадзіць за табой. Дык я прыйшоў і рады не магу даць сабе — што ты за чалавек?

В а ш ч ы л а *(смяецца)*. Я ўжо сказаў, ойча, хто [redacted] — і тады, як перайшоў граніцу сюды, і ўчора, на допыце ў губернскай канцылярыі. Ты спытай лепей пра мяне ў генерала.

М а н а х. Да генерала мне далёка, да Бога высока.

В а ш ч ы л а. Табе, ойча?

М а н а х *(нібыта не чуе)*. То калі ў храм пойдзем? Тут ужо каторы дзень спрабуе да цябе чалавек трапіць.

В а ш ч ы л а. Хто? Здаецца, знаёмых у мяне ў Кіеве няма, каб хто папрасіўся?

М а н а х. Не ведаю хто, аднак калі ішоў сюды, то сустрэў чалавека, нават чырвонцамі знушчаў.

В а ш ч ы л а. А ты?

М а н а х. Сюды, у крэпасць, нельга. Можа, па дарозе ў храм вокам кінеш на яго?

В а ш ч ы л а. Можна й кінуць, як ты кажаш, ойча.

М а н а х. А на споведзь?

В а ш ч ы л а. Сам жа чуеш, няма мне ў чым спавядацца пакуль.

М а н а х. Што сказаць таму чалавеку?

В а ш ч ы л а. Тое і скажы, ойча, што паспрабую па дарозе ў храм кінуць вокам на яго, раз сюды не пускаюць. А чаму? Што, мяне злачынцам трымаюць? Я ж сам перайшоў граніцу, сам здаўся ў Латаках. Адсюль калісь пайшоў на польскі рубеж, сюды і вярнуўся. Чалавек, ойча, шукае, дзе лепей, дзе меней прыгнёту. А ён, аказваецца, паўсюль.

М а н а х. Дык чаму ад аднаго прыгнёту шукаюць другога?

В а ш ч ы л а. Я кажу — некалі збег у Польшчу, цяпер назад прыйшоў, у Расію.

М а н а х. Нашых, праваслаўных, многа там?

В а ш ч ы л а. Лічы, усе, каго я ведаю у Крычаўскім старастве. Католікаў мала.

М а н а х. А што, у старастве вашым і праўда адны беглыя адсюль?

Вашчыла. Ёсць, канечне, і беглыя, як я вось, а то ўсё карэннае насельніцтва. Тамашнія людзі, якія спрадвеку ў мясцовых вёсках жывуць. Нарадзіліся ў іх і жывуць.

Манах. Эхма!.. Нездарма кажуць — скрозь жывуць людзі. Дык што, ісці па сняданак ці на малітву ўжо пойдзем?

Вашчыла. Манахі твае, нябось, ужо адстаялі ютрань?

Манах. Маліцца ніколі не позна, дарэчы, таксама, як ежу ўжываць.

Вашчыла. Хадзем, ойча, хадзем на малітву, хоць, здаецца, хапіла б перажагнаць лоб і тут, у гэтай палаце. *(Водзіць рукой, паказваючы на столь.)*

## Карціна трэцяя

Губернская канцылярыя. Да генерал-губернатара Лявонцьева ў кабінет заходзіць старадубскі палкоўнік Максімовіч. Генерал выходзіць з-за стала, паціскае руку.

Лявонцьеў. Рад бачыць вас, Фёдар Андрэевіч, і не палічыце за вялікую турботу, што спешна выклікаў у Кіеў. Служба, палкоўнік. А ў Старадубе, відаць, цяпер хараша?

Максімовіч. Што можа быць, ваша вышэйшасць, лепей за Кіеў. Нездарма кажуць — маці гарадоў нашых. Незразумела толькі, чаму маці, не бацька?

Лявонцьеў. Ну, ведаеце, Фёдар Андрэевіч!.. Не нам старыя кнігі перайначваць.

Максімовіч. Слухаю вас, пан генерал!

Лявонцьеў. Праз два дні еду ў сталіцу, палкоўнік. І справы там ёсць, і... Словам, еду нібыта па ўласным пачыне. Але галоўная задача вось у чым, дарагі палкоўнік. Нас мае намер наведаць тут матухна імператрыца. Яе Вялікасць Елізавета Пятроўна. І першы па дарозе з Санкт-Пецярбурга ваш полк. Самі ведаеце, што з гэтага вынікае. Так што праз два дні пасля вашага ад'езду з Кіева па дарозе ў сталіцу буду рабіць агляд Старадубскаму палку.

М а к с і м о в і ч. Гэта дакладна, ваша вышэйшасць, што імператрыца збіраецца да нас?

Л я в о н ц ь е ў. Лічыце, дакладна, палкоўнік, але вам належыць ведаць пакуль адно — па дарозе ў сталіцу заеду ў Стара-дуб, зраблю агляд палка.

М а к с і м о в і ч. Слухаю, ваша вышэйшасць.

Л я в о н ц ь е ў. Не падаць жа нам у гразь перад матухнай імператрыцай, а, палкоўнік?

М а к с і м о в і ч. Гэта так.

Л я в о н ц ь е ў. Ды вы сядайце, Фёдар Андрэевіч. Адчувайце вольна ў кабінеце, ну, што дома. *(Сядае ў крэсла, запрашае рукой старадубскага палкоўніка.)* Як вы разумееце, пэўнасць аб наведанні імператрыцай нашых земляў будзе толькі пасля маёй паездкі ў Санкт-Пецярбург. Але да вас, палкоўнік, тым часам з'явілася тут, у Кіеве, яшчэ адна справа. Нават гэта не дакладна, што з'явілася яна ў Кіеве, хутчэй за ўсё — узнікла тут, а з'явілася ў сталіцы. Словам, сутнасць вось у чым. Дзявятага лютага капітан Папоў з Цімошынскага фарпоста пісьмова данёс, што шостага чысла граніцу перайшоў і здаўся на Латакоўскім фарпосце хтосьці Вашчыла Васіль. Цяпер ён тут, у Кіеве. Учора я размаўляў з ім. І яшчэ ўчора ён тлумачыў, што з'яўляецца падданым Расійскай імперыі, а ў Польшчу перайшоў нібыта дзевятнаццаць гадоў назад і ўвесь час жыў у Крычаўскім старастве за князем Радзівілам. Таму ўчора ж у мяне з'явілася думка — ці нельга змусіць яго вярнуцца назад у Польшчу, з тым, каб падбіваць былых нашых падданых вяртацца ў Расію. Чалавек ён, як я зразумеў, уплывовы там, войт. Тым больш што з Замежнай калегіі загад на тое сапраўды паступіў нам. Перабежчык сцвярджае, што нарадзіўся ён у Почапскай сотні, у сяле Чамаданаве. Але сёння ў Кіеў ад князя Радзівіла з'явіліся ганцы — ротмістр па імені Шленца і шляхціч пры ім, Пішчык.

М а к с і м о в і ч. Здаецца, я ўжо бачыў іх, калі ішоў да вас, і ротмістра, і гэтага шляхціча. Пры іх чатыры гусары.

Л я в о н ц ь е ў. Радзівілавы ганцы патрабуюць выдачы Вашчылы, даводзяць, што той нарабіў у Польшчы вялікія крыўды.

Л я в о н ц ь е ў. У лісце, які прывезлі да мяне Радзівілавы ганцы, напісана шмат. Там, у Крычаўскім старастве, адбыўся вялікі бунт. І Вашчыла нібыта ўзначаліў яго. Зрэшты я дам прачытаць вам князеў ліст. І калі яно так, як піша князь, то гэтым павінна заняцца таксама Калегія замежных спраў. Прызнацца, я і сам штосьці падазраваў у ім, гэтым Вашчылу. Нават зрабіў сякія-такія захады. Паставіў сваіх людзей сачыць за ім. Хто ў нас сотнікам ў Почапе?

М а к с і м о в і ч. Іван Тубчыц.

Л я в о н ц ь е ў *(успомніў)*. Так, Тубчыц. Яму і належыць высветліць усе акалічнасці, што датычаць Вашчылы. Няхай сотнік сам наведаецца ў сяло Чамаданава і ўдакладніць паказанні перабежчыка. Калі сапраўды ён былы падданы расійскі, то гаворка з палякамі павінна весціся па-іншаму. Па дамоўленасці з польскімі ўладамі яны павінны самі вяртаць нам такіх перабежчыкаў, а не хаваць іх у сваіх землях. Словам, у Санкт-Пецярбургу я данясу па пісьме князя Радзівіла графу Бястужаву-Руміну. Але пакуль вярнуся ў Кіеў, звесткі аб Вашчылу павінны ляжаць вось тут, на стале. Зразумела, Фёдар Андрэевіч!

М а к с і м о в і ч. Так, пан генерал.

Л я в о н ц ь е ў. Тады з Богам, палкоўнік. Паклон мой шаноўнай Ксені Апалінараўне. Як яна? Нябось, па-ранейшаму штогод па наследніку раджае?

М а к с і м о в і ч. Дзякуй, ваша светласць. Ёсць такое. А вы ў сталіцу з супругай? Вельмі рады будзем сустрэць яе ў Старадубе. *(Устае, пацікае працягнутую генералам руку, ідзе да дзвярэй.)*

Л я в о н ц ь е ў *(наўздагон)*. З усімі матэрыяламі аб Вашчылу, якія мы маем, пазнаёмцеся ў прэм'ер-маёра Гарнастаева.

М а к с і м о в і ч. Слухаю, пан генерал.

## Карціна чацвёртая

Царква ў Кіева-Пячэрскай лаўры. Ютрань ужо закончылася. Але яшчэ гарацьсвечкі, ходзіць поп. Укленчыўшы перад алтаром, стаяць Вашчыла і знаёмы Манах. Вашчыла часта жагнаецца, шэпча малітву. Аддае належнае Богу і манах. Да іх падыходзіць чалавек у армяку, галава яго накрыта башлыком. Чалавек укленчвае побач з Вашчылам. Той працягвае маліцца, нейкі час не зважае на новага чалавека. Тады паварочвае галаву — гэта сотнік Мікола.

Сотнік. Ціха, Васіль!..

Вашчыла. Гэта ты хацеў мяне бачыць! Даўно ў Кіеве?

Сотнік. Ды ўжо каторы дзень.

Вашчыла. Што з маім сынам Мартынам?

Сотнік. Не хвалюйся. У надзейным месцы. Я яго даручыў беладубраўскаму папу ў Студзянцы.

Вашчыла азіраецца на манаха, які спрабуе пачуць гаворку.

Вашчыла. Як ты апынуўся тут?

Сотнік. Ды я даўно іду па тваіх слядах. Лічы, ад самай раніцы, калі ты быў на Латакоўскім фарпосце.

Вашчыла. Расказвай, а то ці давядзецца ў больш зручным месцы апынуцца. Расказвай так, каб гэты не ўсё зразумеў. *(Ківае на манаха.)*

Сотнік. У Крычаве адбыўся суд над нашымі паўстанцамі. Прыязджаў са Слуцка Радзівіл. Івана Карпача зашылі ў мядзведжую шкуру, зацкавалі сабакамі... Стася Бочку пасадзілі на кол... Закатавана многа нашых, вельмі многа, Васіль...

Вашчыла. А што са Стасевым сынам, пісарам?

Сотнік. Яго знявечылі, выразаўшы язык, выпалілі на твары пятлю і прагналі з Крычава. Цяпер недзе бадзяецца, небарака.

Вашчыла ўздыхае.

Манах. Што ж, замежны госць, Богу Богава, а кесару кесарава. Хадзем, бо нас спахопяцца ў крэпасці.

Вашчыла не спяшаецца, нейкі час стаіць на каленях у здранцвенні.

Вашчыла *(да сотніка)*. Куды ж ты цяпер?

Сотнік. Буду недзе побач. Дасць Бог, выручым. А там...

Вашчыла. Мусіць, мяне нядобра ўспамінаюць у старастве?

Сотнік. Як і належыць... Хто як. Але сяннi бачыў у Кіеве, ля канцылярыі, генерал-губернатара, Радзівілавых ганцоў. Няйначай, нешта ўнюхалі. Пільнуйся, а па мне не клапаціся.

Вашчыла. Беражы сына, калі што, не давай у крыўду. Ты цяпер адказваеш за яго. Ведай гэта, Мікола. Бывай.

Сотнік. У мяне з сабой грошы. Я падкуплю каго трэба. Не сумуй, Васіль, можа, абыдзецца. Шкада вось, што Радзівілавы ганцы тут.

Вашчыла. Бывай і сам беражыся. *(Устае, ідзе следам за манахам да выхаду з царквы.)*

## Карціна пятая

Губернская канцылярыя. У пакоі — прэм'ер-маёр Гарнастаеў, ротмістр Шленца, шляхціч Пішчык.

Шленца. Пан маёр, я яшчэ раз настойліва патрабую ад вашай міласці выдаць рабаўніка і забойцу Вашчылу!

Гарнастаеў. Справа з гэтым чалавекам, якога вы называеце рабаўніком і забойцам, высвятляецца, пан ротмістр. Нам яшчэ пакуль невядомы шматлікія акалічнасці, што датычаць яго. Калі Вашчыла сапраўды быў падданы Яе Вялікасці Імператрыцы ўсерасійскай, то па ранейшым дагаворы з Рэччу Паспалітай аб вечным міры мы не павінны выдаваць такіх вам. Наадварот, яго вышэйшасць генерал-губернатар даручыў мне перадаць праз вас князю Радзівілу, што ён незаконна трымае ў сваім старастве нашых падданых.

Шленца. Вашчыла не расійскі падданы, нарадзіўся ён у Крычаўскім старастве і, па нашых звестках, заўсёды жыў там. Таму маем права патрабаваць ад расійскіх улад перадаць яго нам. Мы пад сваім канвоем адвязём яго ў Рэч Паспалітую. Вы

не маеце падстаў затрымліваць забойцу, лютага ворага нашага літасцівага князя, падчашага літоўскага.

Г а р н а с т а е ў. Які ён вораг князя? Самі кажаце, што бунтаваў халопаў супраць мясцовых арандатараў.

Ш л е н ц а. Ягоным разбоем моцна парушаны эканамічныя інтарэсы нашага яснавяльможнага князя!

П і ш ч ы к *(дастае даўно складзеную паперу, пачынае тлумачыць па ёй).* Праз хлопскі бунт у княскай казне ўжо цяпер не хапае шэсць мільёнаў злотых. Гэта так, пан маёр. Да таго ж усё старства прыйшло ў заняпад. То страты на будучыя гады. На потым. Усяго ж Вашчылам нарабавана каля дзесяці мільёнаў. Цяпер нам загадана выявіць, дзе схаваў гэткае багацце злодзей, куды вывез. У часе бунту, які цягнуўся не адзін год, таксама забіта многа дастойных людзей у старастве, у тым ліку каля пятнаццаці жыдоў-арандатараў, а самы шаноўныя браты Іцкавічы, на каго князь заўсёды спадзяваўся, зусім зніклі. Ні ў княстве няма іх, ні ў Кароне, ні нават у Еўропе слядоў не знаходзяць. Ды і жаўнераў, нашых літоўскіх жаўнераў, шмат палегла ў сутычках з Вашчылавым быдлам.

Г а р н а с т а е ў. Добра, пан шляхціч. Я ўпаўнаважаны прыняць ад вас такую скаргу. Мы дададзім яе да следчай справы. Што яшчэ ў вас?

П і ш ч ы к. Бунтаўшчык квапіўся таксама на чужое імя — выдаваў сябе за гетмана, за ўнука Багдана Хмяльніцкага. Ён — самазванец!

Г а р н а с т а е ў. Я так разумею, што вы дамагаецеся ад нас вочнай стаўкі з Вашчылам?

П і ш ч ы к. Так, ваша міласць.

Г а р н а с т а е ў. Але і ў гэтым я мушу адмовіць вам, паны палякі. Затое мы маем магчымасць наладзіць такую сустрэчу яшчэ з адным бунтаўшчыком, якога мы затрымалі. *(Рэйтару.)* Прывядзіце.

У пакой пад аховай уводзяць с о т н і к а  М і к о л у. Ён знясілены ад допытаў, ледзь трымаецца на нагах.

*(Да Шленца і Пішчыка.)* Вам вядомы гэты чалавек?

Радзівілавы ганцы адмоўна ківаюць галовамі.

Можаце задаваць пытанні.

Ш л е н ц а *(глядзіць на прэм'ер-маёра).* Хто гэта?

Г а р н а с т а е ў. Затрыманы пры спробе наладзіць сувязь з Вашчылам. Мы таксама не ведаем, хто гэта. Таму і дазволілі вам паглядзець на яго. А калі і вам невядомы, то... Пан рэйтар, забярыце яго.

Ш л е н ц а. Не, пачакайце, пан маёр *(Да сотніка Міколы.)* Хто ты естэсь, пся крэў?

С о т н і к. Сам ты пся крэў!

Ш л е н ц а. Ну, ну, быдла! Аддайце нам яго, пан маёр. Мы хутка яму развяжам язык!

Г а р н а с т а е ў. Хацеў бы я паглядзець, як гэта ў вас атрымаецца. Прынамсі, у нас ён увесь час маўчыць. Ані слова ні пра сябе, ні пра Вашчылу. Што ж да выдачы яго вам, то існуе прычына, па якой і ў гэтым вымушаны адмовіць *(Зноў падае знак, каб сотніка вывелі.)*

Ш л е н ц а. Але мы са свайго боку павінны заявіць вам, ваша міласць, што не пакінем Кіева, пакуль не даможамся свайго.

## Карціна шостая

Турма ў Пячэрскай крэпасці. Камера В а ш ч ы л ы. Той сядзіць на лаўцы. Заходзіць п р э м ' е р - м а ё р Г а р н а с т а е ў.

Г а р н а с т а е ў. Прыйшоў паглядзець, як цябе ўтрымліваюць тут, гетман.

Вашчыла са здзіўленнем глядзіць на Гарнастаева.

У тваёй справе адкрыліся новыя акалічнасці. Аказваецца, ты не той, за каго выдаеш сябе перад намі. Выходзіць, што ты бунтаваў халопаў у Крычаўскім старстве. Хіба не так?

В а ш ч ы л а. Адкуль гэта вядома?

Г а р н а с т а е ў. Думаеш, калі ты сядзіш тут у поўнай бяспецы, дык мы там, у сваёй канцылярыі, сядзім склаўшы рукі? Дарэчы, намі ўзяты твой паплечнік. Хто ён?

Вашчыла маўчыць.

На цябе ад палякаў паступіла скарга, што ты мільёны нарабаваў у старастве і шмат нявінных людзей пабіў, сам уцёк да нас за граніцу, каб пазбегнуць суда. Так што запірацца не раю. Асобу, такім чынам, мы тваю высветлілі. Застаецца толькі сабраць астатнія звесткі, ці праўда, напрыклад, што ты былы расійскі падданы. Ганцы, што знаходзяцца тут ад князя Радзівіла, патрабуюць тваёй выдачы. Скажы, што гэта за чалавек, што падыходзіў да цябе ў царкве?

Вашчыла. Я не ведаю. Ці мала хто ў царкве да алтара падыходзіць. Маліліся разам.

Гарнастаеў. І шапталіся, як змоўшчыкі. Аб чым ішла мова? Як нам вядома, шапталіся вы паміж сабой пра нейкія страшныя пакаранні.

Вашчыла. Ні пра якія пакаранні мы не гаварылі. Манах ваш хлусіць. Гэта яму здалося.

Гарнастаеў. О, пан гетман, пан войт. Мы да цябе няблага ставімся, нават паважаем, калі хочаш ведаць, аднак жа... доўгае запіранне можа вывесці з раўнавагі хоць каго. Хіба табе ў нас дрэнна? Таму я заклікаю цябе да паразумення.

Вашчыла. Скажыце, пан маёр, чаму вы мяне называеце гетманам?

Гарнастаеў. Ты ж сам выдаваў сябе за гетмана ў Польшчы! Нават за ўнука Багдана Хмяльніцкага.

Вашчыла. Мне б і ў галаву ніколі не прыйшло называць сябе ўнукам Багдана!..

Гарнастаеў. А гетманам?

Вашчыла. І гетманам таксама. Мяне заўсёды ведалі як Вашчылу, сілічоўскага войта. А вы!.. Пабойцеся Бога! Хто гэта вам нагаварыць мог?

Гарнастаеў. Раскажы — што адбылося ў Крычаўскім старастве? Не так жа ты сабе ўцякаў адтуль?

Вашчыла. Не ведаю. Чуў ад людзей, што сяляне нібыта бунтаваліся супроць князя. Але гэта далей ад нас, пад Крычавам.

Гарнастаеў. Прытвараешся. Ды ладна. Часу ў нас якраз цяпер хапае. Генерал у ад'ездзе. Палякі таксама пачакаюць.

Фанабэрыі менш будзе. А ты падумай. Знойдзеш што сказаць, дай знаць у канцылярыю яго вышэйшасці. Значыць, не ведаеш і хто той чалавек, з якім шушукаўся ў царкве?

Вашчыла. Не.

Прэм'ер-маёр выходзіць.

*(Гаворыць сам сабе.)* О, сотнік, даруй мне за ўсё. І за тыя пакуты, якія могуць цябе напаткаць. Толькі цяпер я да канца зразумеў, што павінен быў застацца ў старастве, раздзяляць агульны лёс наш!..

Ужо настае вечар, і ў лаўры зноў звоняць званы. У камеру заходзіць манах.

Манах. Для споведзі час яшчэ не настаў? Тады хадзем на малітву.

Вашчыла. Я памаліўся ўжо. Дык хто ты — чарнец ці звычайны віжун?

Манах. Кожны мае свой грэх.

Вашчыла. Ну я няхай сабе. А навошта ты выдаў майго чалавека?

Манах уздыхае, ціха выходзіць з камеры.

## Карціна сёмая

Санкт-Пецярбург. Калегія замежных спраў. У кабінеце — граф Бястужаў-Румін. Заходзіць генерал Лявонцьеў.

Бястужаў-Румін. Рад бачыць вас, генерал. Калі мне далажылі, што вы просіце аўдыенцыі, я трохі здзівіўся, бо толькі што атрымаў данясенне з Кіева. Але пасля падумаў — матухна імператрыца збіраецца ж да вас ў Кіеў. Відаць, гэтая падзея і змусіла вас сабрацца ў дарогу?

Лявонцьеў. У сталіцы заўсёды багата спраў. Шкада, што рэдка маем магчымасць наведвацца сюды. Што ж да майго данашэння...

Бястужаў-Румін. Значыць, аб'явіўся ў Кіеве чалавек, які раптам зацікавіў дзве дзяржавы? Не ведаю, як у вас, а ў Замежнай калегіі падобных спраў звычайна хапае, генерал. Праўда, з Вашчылам асаблівы выпадак. Выходзіць, мы затрымліваем у сябе чалавека, які нарабіў у суседнім каралеўстве многа чорных спраў. Акрамя вашага данашэння ў калегію паступілі лісты непасрэдна ад князя Радзівіла, літоўскага падчашага. Праўда, для нас нечаканым бунт у Крычаўскім старастве не быў. Збольшага мы ведаем, што адбываецца ў сумесных з намі землях. Такі наш занятак, генерал, каб ведаць, што робіцца вакол нашай дзяржавы. Да таго ж і паслу нашаму ў Варшаве зроблена запытанне пра Вашчылу, палякі даюць зразумець, што падазраваюць наша ўмяшанне ў крычаўскі бунт. Але няхай. З вашага данашэння, генерал, вынікае, што вы нават мелі намер выкарыстаць Вашчылу ў сваіх мэтах. Што ж, задума была цікавая. Нікуды нявартa, што палякі збіраюць у сябе ўвесь наш раскол, прымаюць беглых і гэтым парушаюць былую дамоўленасць паміж дзяржавамі на вечным міры. Заўтра я ўвайду з запытаннем па гэтай справе ва ўрадавы сенат. Мяркую, вы не надта спяшаецеся ў Кіеў?

Лявонцьеў. Трэба, граф, трэба.

Бястужаў-Румін. І ўсё ж давядзецца трохі затрымацца. Наведаеце мяне зноў у калегіі, можа, нават заўтра. А цяпер — не затрымліваю вас, генерал. Рады быў сустрэцца. Усё-такі даўнія знаёмыя. Бывайце.

Развітваюцца.

## Карціна восьмая

Кіеў. Карчма. За сталом — ротмістр Шленца і шляхціч Пішчык. За лядай — сонны Карчмар.

Шленца. Рускія, бачыш, кляшчом учапіліся за Вашчылу. Наўрад ці выдадуць. Мусіць, тут ветлівых княскіх лістоў да генерал-губернатара мала.

П і ш ч ы к. Але пра гэта няхай думае князь. Мы робім усё, на што здольныя. Большага пакуль не ўдаецца. Неабходна, відаць, выклікаць надворнага князя палкоўніка Пястрыцу. Ён цяпер у Крычаве, спраўляе крывавы пір.

Ш л е н ц а. Вось ты, шляхціч, і збірайся ў Крычаў.

П і ш ч ы к. А калі ўжо няма палкоўніка ў Крычаве?

Ш л е н ц а. Паедзеш у Слуцк. Да самога князя. А таго чалавека, якога ты падкупіў... Дарэчы, хто ён? Я ж таксама павінен пэўна ведаць, раз тут застаюся.

П і ш ч ы к. Пакажу.

Ш л е н ц а. Думаю, што ён нам не спатрэбіцца. Бо невядома, якія далейшыя загады паступяць ад князя. Так што дарэмна грошы на чортведама каго трацім!.. Многа ўжо заплаціў?

П і ш ч ы к. Даволі. Але не ўсе. На ланцугу такім чынам трымаю.

Ш л е н ц а. Астатнія злоты аддасі мне. Прасі яшчэ ў князя. Няхай не шкадуе. На яго ж трацім.

П і ш ч ы к. Янавяльможны не шкадуе.

Ш л е н ц а. Гэй, карчмар, нясі нам зноў гарэлкі з перцам!

Карчмар нясе штоф.

К а р ч м а р. Учора тут ваша войска прыходзіла, паны палякі. Гусары. Учатырох. Дык таксама няблага жлукцяць. Відаць, і яны запівалі штосьці? Здзелку ці гешэфт?

Ш л е н ц а. Што табе да гэтага, пся крэў! Мы грошы табе плоцім? Плоцім! Ты і не суньcя, быдла, куды не просяць!

## Карціна дзявятая

Зноў Вашчылава камера ў Пячэрскай крэпасці. В а ш ч ы л а стукае кулаком у дзверы. Заходзіць м а н а х.

М а н а х. Не сядзіцца аднаму?

В а ш ч ы л а. Вядзі, ойча, да губернатара.

М а н а х. Эйш, чаго захацеў? Па-першае, генерал-губернатара няма ў Кіеве, па-другое, па горадзе цябе вадзіць вось

так, як стаіш, забаронена. Для цябе гэта небяспечна. Крый бог, палякі ўбачаць!.. Каго паклікаць?

Вашчыла. Ну, гэтага... пана прэм'ер-маёра, што неяк прыходзіў сюды.

Манах. Маёра? Можна. Гэта можна. *(Выходзіць.)*

Вашчыла застаецца адзін. Ходзіць па камеры. Праз нейкі час ляскаюць дзверы. Гэта — прэм'ер-маёр Гарнастаеў.

Гарнастаеў. Што, надумаў нарэшце, гетман?

Вашчыла. Мне трэба пабачыцца з тым чалавекам, якога вы схапілі ў лаўры.

Гарнастаеў. Дык хто ж ён усё-ткі? Знаёмы твой?

Вашчыла. Пагавару з ім, тады скажу.

Гарнастаеў. Што ж, гэта можна. Хоць, вядома, інструкцыяй забараняецца. На ўсё ёсць правілы, гетман. А раптам змовіцеся?

Вашчыла. Не да змоў цяпер нам. Дый пра што можна змовіцца, калі ў няволі.

Гарнастаеў. У няволі якраз і выспяваюць змовы. Але ладна, я парушу інструкцыю. Толькі дзеля нашай павагі да цябе, гетман. Зразумей, расійскія ўлады да цябе нічога не маюць. Проста трэба ведаць пра ўсё, каб вырашыць з табой. Калі верыць палякам, то...

Вашчыла. Даліся вам, пан маёр, палякі!..

Гарнастаеў. Адна ўмова — сустрэча павінна адбывацца ў прысутнасці нашага чалавека.

Вашчыла. Вывіжоўшчыка? Манаха гэтага?

Гарнастаеў. Так.

Вашчыла. Няхай, раз інакш нельга.

Прэм'ер-маёр выходзіць. У камеру заходзіць манах, прыносіць вячэру.

Манах. Падмацуйся, чалавеча.

Вашчыла. О Госпадзі, яшчэ і гэта!

Манах чамусьці смяецца з Вашчылавых слоў, праўда, па-манаску, усё роўна як употай, змушана. Ставіць ежу на стол. Канвойны прыводзяць сотніка Міколу.

Сотнік. І гэты шпег тут?

Вашчыла. Цяпер нам ужо без лішняга вуха і чужога вока не абысціся, сотнік. Такая наша доля. Значыць, і ты зняволены?

Сотнік *(нібыта не чуе Вашчылу).* А ў Кіеве нават манахі ў наглядчыках?

Манах. Прыслужваем.

Вашчыла *(да сотніка).* Нябось, галодны?

Манах. І біты, і галодны.

Вашчыла. Гэта праз мяне.

Сотнік пачаў есці.

*(Нейкі час моўчкі глядзіць на свайго таварыша.)* У рускіх многа крыміналу на мяне. Відаць, палякі стараюцца.

Сотнік. Бачыў я тут ротмістра Шленца і шляхціча Пішчыка.

Вашчыла. А-а, вунь што!.. Ды ніякай. Рашыў я, Мікола, ва ўсім прызнацца. Можа, цябе гэтым уратую. Манах вось прыстаўлены, каб слухаць нас. Таму не палохайся. Я ўсё прадумаў. Але не дае мне спакою думка — што здарылася ў Царковішчы? Як гэта выйшла, што княскія драгуны паспелі туды, лічы, адразу за намі, пасля бойкі пад Крычавам?

Сотнік. Мусіць, сапраўды хтосьці навёў на нас.

Вашчыла. Я ўсё думаю — ці ўсё мы тады зрабілі як трэба?

Сотнік. Што ўжо цяпер думаць!..

Вашчыла. А я вось думаю, сотнік. Выходзіць, падняў мужыкоў на змаганне, а толку даць не здолеў, нібыта дарэмна ўсё — і кроў, і пакуты, і надзеі. Вось папрасіў, каб прывялі цябе. Маўчаць больш не мае сэнсу. Да таго ж мы не ворагі Рускай дзяржаве, Мікола.

Сотнік. Калі не ворагі, то чаму нас трымаюць?

Вашчыла. Мяне, напрыклад, палякі патрабуюць выдаць, а пра цябе пакуль ніхто не ведае. Не скора, мусіць, народ наш зноў падымецца за волю, раз мала хто ўцалеў там...

Сотнік. Мала, войт.

Вашчыла. Мне б зноў на Сож, на Бесядзь...

Сотнік. Забудзь пакуль.

Сядзяць моўчкі.

Давай, Васіль, засняваем нашу песню!

Пяюць.

Манах. Дзіва, але гэта наша, украінская. Толькі словы трохі перайначаны.

Вашчыла. Яна і наша, беларуская. І ў твайго народа, і ў нашага адны пакуты праз ўсё жыццё. Няйначай, у старыя часы казакі Налівайкі занеслі да нас гэту песню. Ці ж маеш, чарнец, чым пісаць? Справа такая, што трэба засведчыць.

Манах выходзіць, прыносіць пісьмовыя прылады, паперу

Сотнік. А ты, Васіль, добра падумаў, што збіраешся прызнавацца.

Вашчыла. Падумаў, сотнік. Пішы, чарнец. Нарадзіўся не тут я, у Малой Расіі. Нарадзіўся ў беларускай зямлі, у вёсцы Лобжа, што ў Крычаўскім старастве, і жыў потым за князем Радзівілам. Адкуль прыйшлі ў тую зямлю дзед мой Пацей ды бабуля Ганнуша, дакладна не ведаю. Бацька казаў, што нібыта паходзяць сапраўды з тутэйшага маларасійскага сяла Чаманава. З Лобжы дзед мой і бацька Мацей перайшлі жыць у Мсціслаўскім ваяводстве ў маёнтнасць шляхціча Святкоўскага ў вёску Мурын Бор. Старыя ўсе нашы хутка памерлі, застаўся я з братамі – Мацеем, Яфрэмам ды Сямёнам жыць пры маці Марыне. Але і з Мурынага Бора сям'і давялося перабрацца ў тым жа Крычаўскім старастве ў другое месца, у Сілічы. Там і прайшло ў асноўным жыццё. У Сілічах стаў войтам. Прозвішча Вашчыла маю не дзедава і не бацькава, як яны пісаліся, не ведаю. Жыву Вашчылам. Ёсць у мяне дарослы сын Якаў з жонкаю і малалетні Мартын. Мне пяцьдзясят чатыры гады. Жонка таксама памерла. Так што ўсё маё засталося ў Крычаўскім старастве, жыў за князем Радзівілам, якога не здолеў перамагчы. Аб гэтым вельмі шкадую і дакараю сябе. Жыдоў у часе паўстання не забіваў. Гэта дарэмна на мяне гавораць. Здаралася, што ратаваў. Іншая справа, што за ўсім прасачыць не хапала магчымасці. Можа, хто і пацярпеў ад гневу людскога. Мы толькі хацелі прагнаць арандатараў з нашай зямлі. А браты Іцкавічы зніклі са старраства

яшчэ перад паўстаннем. Думаю, што іх недзе перанялі на дарозе чавускія цыганы. Казалі мне пра гэта мужыкі. Там, каля Чавусаў, што паміж Магілёвам і Мсціславам, цыганскае баронства здаўна. Няйначай, цыганы і паквапіліся на жыдоўскае багацце, нарабаванае ў часе арандатарства. Іцкавічы былі хцівыя ліхвяры, рабавалі людзей, не маючы сораму за душой, але мае паўстанцы не чапалі іх. Мы толькі хацелі, каб князь замяніў іх. Радзівіл лічыць мяне сваім ворагам. Што ж, ворагам я князю стаў, гэта праўда, бо стаяў за вясковы народ і за крычаўскую рамесную беднату, не раз хадзіў з людскімі скаргамі да князёў у Слуцк, нават у Белую. Ажно пакуль цярпенне не скончылася.

Манах. Усё?

Вашчыла. Так.

Манах. Ну, а пра паўстанне?

Вашчыла. Гэта — іншая гісторыя. Ад мяне пакуль патрабавалі сказаць, хто ды адкуль.

Манах. Пастаў сваё прозвішча.

Вашчыла. Не навучаны грамаце.

Гасне святло. Чуецца тая ж песня, што і нядаўна.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Карціна дзясятая

Санкт-Пецярбург. Калегія замежных спраў. Зноў граф Бястужаў-Румін і кіеўскі генерал-губернатар Лявонцьеў.

Бястужаў-Румін. Вось якую рэзалюцыю, генерал, меў я гонар атрымаць сёння ад урадавага сената па той справе, дзеля якой я прасіў вас затрымацца ў сталіцы. Спадзяюся, не сумавалі ў нас. Ды і рэзалюцыя, трэба сказаць, выйшла хутка,

што даволі рэдка здараецца ў наш час. Так што маё прабачэнне за доўгую затрымку не спатрэбілася нават.

Лявонцьеў. Слухаю, граф.

Бястужаў-Румін. Паколькі справа з халопскімі бунтамі ў Крычаўскім старастве Вялікага Княства Літоўскага выйшла далёка за межы нашых з вамі паўнамоцтваў, Урадавы сенат пастанавіў утварыць для расследавання змешаную расійска-польскую камісію. Месцам знаходжання каміссіі вызначана прыгранічнае мястэчка Мглін. Вам, генерал, належыць паведаміць аб гэтым падчашаму літоўскаму, князю Радзівілу, каб вылучыў у камісію сваіх камісараў.

Лявонцьеў. Зразумела, граф. Але дазвольце запытаць. Якое распараджэнне выйшла з урадавага сената адносна самога Вашчылы?

Бястужаў-Румін. Калі ўсё-ткі высветліцца, што ён не падданы Яе Імператарскай Вялікасці, а паляк альбо іншай прыроды чалавек польскі, то, згодна з трактатам аб вечным міры паміж Рэччу Паспаліта і Расіяй, яго давядзецца выдаць князю Радзівілу. Тым часам, калі Вашчыла акажацца сапраўды нашым падданым, усё прыме іншы кірунак. У такім выпадку ён падпадзе пад суд Расійскай імперыі. Суда нам не пазбегнуць, дарма што злачынствы, якія ўчыніў Вашчыла, ні палітычных, ні эканамічных інтарэсаў нашай дзяржавы не закранаюць. Па тым жа трактаце аб вечным міры падобныя справы без пакарання, самі ведаеце, не застаюцца. Таму Вашчылу належыць даставіць з Кіева ў Мглін. Адказнасць за ахову і бяспеку трэба ўскласці на вельмі надзейнага чалавека. Каго вы параіце, генерал?

Лявонцьеў. Старадубскага палкоўніка Максімовіча.

Бястужаў-Румін. Тым больш што мястэчка Мглін, здаецца, знаходзіцца на тэрыторыі Старадубскага палка?

Лявонцьеў. Так.

Бястужаў-Румін. І яшчэ ўлічыце адно — стала вядома, што цяперашні бунт у Крычаўскім старастве падаўлены вельмі жорстка. Руская дзяржава не можа закрыць вочы на падобную жорсткасць, бо яна накіравана на праваслаўных людзей, што значыць, на блізкіх нам па крыві і па веры.

Якраз гэта і трэба давесці ў ходзе расследавання да змешанай камісіі. У пісьме ж радзівілаўскім камісарам да літоўскага падчашага вам, генерал, неабходна сур'ёзна, не зважаючы на рэзкі тон, указаць уладальніку Крычаўскага староства, што за ім даўно пражывае нямала беглых людзей з Расійскай імперыі і што ён патурае іхняму ўкрывацельству.

Лявонцьеў. Я пра гэта пісаў, ваша светласць.

Бястужаў-Румін. Не толькі вы, генерал. У другіх прыгранічных маёнтнасцях Вялікага Княства Літоўскага таксама назіраецца падобнае становішча, і там знаходзіцца шмат беглых з нашага боку. Дык вось у пісьме да падчашага вам трэба настойліва запатрабаваць вяртання іх у імперыю. Акрамя таго, варта ўжо цяпер пачаць захады, каб добраахвотна схіліць іх да гэтага. Сенат, як і трэба, ацаніў, генерал, ваш намер накіраваць у каралеўства свайго чалавека. Але самі ведаеце. Вашчыла цяпер, генерал, для падобнай місіі не падыходзіць.

Лявонцьеў. Зразумела. Давядзецца шукаць кагосьці іншага.

Бястужаў-Румін. І не аднаго.

Лявонцьеў. Падумаем, граф. Тым больш што ў прыгранічча праблема гэта мае і другі сэнс. Польскі бок, не пакідаючы займацца інтрыгамі супраць імперыі, часта скарыстоўвае былых нашых падданых у зламысных мэтах. Адтуль, з-за польскай граніцы, пачынаючы з часоў ілжэцароў, не перастаюць пранікаць цёмныя людзі. І з кожным годам усё больш і больш.

Бястужаў-Румін. Гэта вечная праблема граніцы, генерал. Наўрад ці ёсць якая магчымасць яе рашыць. Іншая справа — зменшыць вастрыню. Але добра, будзем лічыць, што такім чынам аб усім дамовіліся, генерал. Больш я вас не затрымліваю. Шчаслівай дарогі ў Кіеў.

Генерал-губернатар кланяецца графу, выходзіць.

## Карціна адзінаццатая

Замак Гераніма Радзівіла ў Слуцку. У багатым пакоі чакае шляхціч Пішчык. Ля дзвярэй, з двух бакоў, стаіць княская стража. Адчыняюцца дзверы. Заходзіць Радзівіл. Пішчык падхопліваецца, схіляецца ў нізкім паклоне перад князем.

Пішчык. Яснавяльможны князь наш, я спяшаўся з Кіева, каб заспець вашу мосць у Крычаве альбо палкоўніка Пястрыцу. Давялося, не злазячы з сядла, імчаць сюды.

Радзівіл. А што мне было рабіць у Крычаве? Парадак у старастве наведзены. Бунтаўшчыкі атрымалі па заслугах. Хлопы зноў прыведзены да пакорлівасці. І не абяцаннямі, як раней, а сілай. Цяпер мне патрэбны завадатар. Галоўны забойца і падбунтоўшчык. Патрэбны Вашчыла, для якога прыдумана ўжо кара не менш страшная, чым для ягоных хаўруснікаў — Бочкі, Карпача і каніцкага атамана Ветра. Атрымаў сваё і саматэвіцкі поп.

Пішчык. Так, так, яснавяльможны князь!

Радзівіл. Але я атрымаў з Кіева ліст ад генерал-губернатара, што расійскі сенат выдаў загад аб стварэнні руска-польскай прыгранічнай камісіі па справе забойцы. З усяго відаць, у Санкт-Пецярбургу рашылі пагрэць рукі на пажары, які распаліў мярзотнік сілічоўскі войт. Там не супраць нават, каб раздзімаць затлелы пажар. Выдаць Вашчылу яны пакуль не збіраюцца. Наадварот, маюць намер распачаць вялікую цяганіну, выстаўляючы розныя нам прэтэнзіі. Што ў вас ў Кіеве?

Пішчык. Асабіста я, яснавяльможны князь, і ротмістр Шленца рабілі ўсё, каб выканаць ваш строгі загад. Не шкадавалі грошы, не...

Радзівіл. Ну, тое, што вы не шкадуеце мае грошы, гэта я ведаю. Можаш не гаварыць. Ты мне, шаноўны шляхціч, скажы, чаго вы з ротмістрам дамагліся па маім загадзе?

Пішчык. Забойцу Вашчылу ў Кіеве моцна ахоўваюць, яснавяльможны князь. Нам са Шленцам, нягледзячы на вялікія намаганні, не ўдалося не толькі паймець размову, каб учыніць допыт, але і пабачыць яго рускія не дазволілі. Адмову сваю

ў канцылярыі генерал-губернатара тлумачаць інструкцыямі, якія нібыта неабходна захоўваць з іхняга боку пры следстве.

Радзівіл. Следства ўсё-ткі вядзецца?

Пішчык. Ва ўсякім разе, выгляд, што яно сапраўды вядзецца, у Кіеве робяць, яснавяльможны князь.

Радзівіл. Цяпер гэтым заклапочаны не толькі ў Кіеве. Вы ж чулі, у рускай сталіцы надумалі стварыць змешаную камісію. І ўжо генерал-губернатар Лявонцьеў прапануе як найхутчэй прызначыць у яе камісараў. Я вось думаю цяпер аб гэтым. Але думаю таксама і пра тое, ці патрэбна мне такая камісія наогул? Што я мецьму з яе? Як мяркуеш, шляхціч?

Пішчык. Дык...

Радзівіл. Вось іменна – дык! За што я толькі плачу вам, гіцлям, са свае казны вялікія грошы? Лепей бы самі пашукалі іх у старастве – недзе ж Вашчыла схаваў нарабаванае ў жыдоў багацце. Дзеля гэтага ён таксама патрэбны мне, каб выдаў сховы. А што нягоднік выдасць, я не сумняваюся. У маіх лёхах і не такім развязвалі языкі. *(Доўга ходзіць па пакоі, думае. Нарэшце зноў пачынае размову.)* А што гавораць у Крычаве па маім ад'ездзе?

Пішчык. Я не дазволіў сабе нават пераначаваць там, адразу сюды.

Радзівіл. Ну ты, шляхціч, заўсёды добра служыў мне. Вось толькі нічога суцешлівага не прывёз. Мусіць, дарэмна я грошы даваў лішнія. Нябось, прапіліся там, па кіеўскіх карчмах? Ведаю я твайго Шленца. Вечна п'яны. Ну, што маўчыш?

Пішчык. Мы стараліся, яснавяльможны князь.

Радзівіл. Што мне з вашага старання!

Пішчык. Частка злотых пайшла на подкуп тамашніх абываценяў.

Радзівіл. Ну і што?

Пішчык. Ну, калі раптам спатрэбіцца...

Радзівіл. Ды ўжо ж, відаць, і спатрэбіцца, шляхціч. Раз рускім даспадобы мой заняты вораг, то мне таксама варта падумаць аб сваёй асобе. Літоўскі падчашы не такі чалавек,

каб... Словам, да д'ябла тую камісію. Яшчэ невядома, дзеля чаго яна створана. Не дзеля аднаго таго ж, каб высветліць — мой падданы Вашчыла ці нейчы іншы? Як думаеш, шляхціч?

Пішчык. Ваш светлы розум, яснавяльможны князь...

Радзівіл. Дык мой светлы розум якраз і паказвае — да д'ябла тую каміссію. Але і адмаўляць рускім не стану ў ёй. Сёння ж прызначу двух камісараў — спраўнага афіцэра і адмысловага пісца-юрыста. На ўсякі выпадак. А цяпер слухай, шляхціч. Вашчыла не павінен даехаць да Мгліна, каб трапіць на камісію. Няхай рускія кусаюць потым локці сабе. Яны мне падрыхтавалі пастку, а я не дамся, пся крэў. Каго вы там, у Кіеве, нанялі?

Пішчык. Надзейнага чалавека, яснавяльможны князь.

Радзівіл. На тым і спынімся. Збірайся ў дарогу, шаноўны шляхціч. Павязеш ліст мой да генерал-губернатара. Але паедзеш у Кіеў не праз Гомель, а зноў праз Крычаў. Даставіш палкоўніку мой найстражэйшы загад — працягваць пошукі Вашчылавага вывадка. На тэрыторыі старасты недзе хаваюцца яго сыны, асабліва мне патрэбен другі, малалетні. Не выключана таксама магчымасць, што яны паспелі следам за бацькам перабегчы граніцу. Там ужо ваш са Шленцам клопат. А палкоўніку Пястрыцы ў Крычаве скажы ад майго імя, каб перавярнуў усё ў старастве, а вывадак Вашчылаў дастаў.

Пішчык. Дзякуй за вялікі давер, яснавяльможны князь.

Шляхціч колькі разоў б'е паклоны, спяшаецца выйсці. Радзівіл змрочна глядзіць услед. Тады моцна пляскае ў далоні, кагосьці кліча гэтым.

## Карціна дванаццатая

Камера Вашчылы ў Пячэрскай крэпасці. Усё тая ж абстаноўка, але вязень — у ланцугах ужо.
Забягае манах, усё роўна як шнарыць нечага моўчкі альбо пільнуе за парадкам перад тым, як камусьці ўвайсці сюды. І сапраўды — праз момант у камеру ў суправаджэнні прэм'ер-маёра Гарнастаева заходзіць генерал-губернатар Лявонцьеў.

Лявонцьеў. Шанаванне маё, гетман, шанаванне.

Вашчыла гядзіць спадылба на генерал-губернатара, але твар яго спакойны, поўны годнасці.

Што, не чакаў візіту?

Вашчыла. Добры дзень, пан генерал.

Лявонцьеў. А я вось прыйшоў паглядзець зноў на чалавека, які здолеў нарабіць шуму, як кажуць, на дзве дзяржавы. Што ён гэта, гетман, за нос нас вадзіў столькі? Я ўжо гатовы быў паверыць, што ты сама бяскрыўднасць і што шукаеш сваю былую радзіму, сяло Чамаданава Пачопскай сотні. А тут прыязджаю, паказанні твае чытаю. Аказваецца, не той ты, за каго выдаваў сябе.

Вашчыла *(адчужана)*. Я ў гэтым прызнаўся. Добраахвотна. Але за маё згоднае прызнанне прашу, пан генерал, ласкі. Адпусціце майго чалавека.

Лявонцьеў. Не за сябе просіш — за дружбака? Можа, за вайсковага старшыню?

Вашчыла. За сотніка. Узялі вы яго дарэмна.

Лявонцьеў. Што значыць — дарэмна? Чалавек пранік да нас з чужой дзяржавы і гэта дарэмна, па-твойму?

Вашчыла. Я пра тое, што ніякай карысці вашай дзяржаве ад яго. Я нарабіў у старастве шкоды, я і адказваць мушу. З гэтым я і прызнанне даваў, каб яго адпусцілі. Уважце маю просьбу. Хопіць з вас аднаго мяне. Хоць я перад вамі таксама не вінаваты, а ён — тым больш.

Лявонцьеў. Гэта праўда, перад намі ты не вінаваты, але ж існуюць міждзяржаўныя адносіны. І тая дзяржава, дзе ўчынена злачынства, мае права патрабаваць выдачы вінаватага. Тое ж, аб чым мы размаўлялі мінулы раз, трэба выкінуць табе з гала-

вы. У той справе ты нам больш не памочнік, бо дзяржаўны злачынца, кіраўнік паўстання, якое нанесла нашаму суседу, літоўскаму падчашаму, вялікія страты. Радзівіл да цябе мае прэтэнзіі — акрамя таго, што ты са сваімі людзьмі зруйнаваў ягоную маёнтнасць, яшчэ і многа людзей пабіў, жаўнераў таксама.

В а ш ч ы л а. Людзей я не забіваў. Гэта дарэмна. А што пра жаўнераў, дык на тое вайна, пан генерал. Яны забівалі нас, мы — іх.

Л я в о н ц ь е ў. Па ўказу Яе Імператарскай Вялікасці створана прыгранічная руска-польская камісія. Яна займаецца тваёй справай. Гэта я павінен заявіць табе афіцыйна. Так што з-пад маёй улады ты неўзабаве вызвалішся.

В а ш ч ы л а. А сотнік мой?

Л я в о н ц ь е ў. Сотнік сапраўды быццам бы ні пры чым тут, хоць, канечне, сышоў бы за сведку. Але ты праўду кажаш, шкоды ён нашай дзяржаве не нарабіў і патрабавання аб яго выдачы мы ад князя Радзівіла не маем. Так што на сотніка пакуль цалкам распасціраецца наша добрая воля. Але пра сотніка твайго пасля. Цікава мне ведаць, Вашчыла, чаго ты хацеў, бунтуючы супроць свайго ўладальніка староства?

В а ш ч ы л а. Волі хацеў. Не было ўжо як пад князем жыць. Задушыў ён нас сваімі арандатарамі. Таму я і хацеў даць людзям волю.

Л я в о н ц ь е ў. Ну, гэта ўсе вы, бунтаўшчыкі, так гаворыце. Сцянан Разін у нас таксама ў граматах сваіх тое ж пісаў.

В а ш ч ы л а. Не чуў я пра такога.

Л я в о н ц ь е ў. А дарэмна, а то б не пайшоў на злачынства, калі б ведаў, чым разінскі бунт скончыўся і як сам той злодзей скончыў. Значыць, і ты хацеў волю народу даць

В а ш ч ы л а. Волю, пан генерал.

Л я в о н ц ь е ў. А царом не хацеў стаць?

В а ш ч ы л а. Я бунтаваў людзей супроць Радзівіла. А каралём у нас — другі чалавек.

Л я в о н ц ь е ў. Навошта ж тады называў сябе гетманам, унукам Багдана Хмяльніцкага?

В а ш ч ы л а. Я не называў так сябе, я ўжо гаварыў вось яму. *(Ківае на прэм'ер-маёра Гарнастаева.)* Я чалавек просты,

звычайны войт, і ўсе пра гэта ў нашым краі ведалі. Навошта ў такім разе было мне выдаваць сябе за гетмана, ды яшчэ за Хмелевага ўнука? Не, пан генерал, гэта не ў нашых звычках выдаваць сябе пры ўсім народзе за кагосьці.

Л я в о н ц ь е ў. Ну, а праўда, што ты хацеў рушыць свае атрады на Слуцк, дзе галоўная кватэра Радзівіла, нават на сталіцу Вялікага Ккняства Літоўскага? Ці многа пад табой войска было?

В а ш ч ы л а. Многа, пан генерал. Тысячы. І гарматы былі, і конніца была, усё, як трэба ў войску. А пра Слуцк, пра Вільню? Канечне, мы ведалі, дзе галоўныя князевы гнёзды, але ж у мяне не было вучоных палкоўнікаў, каб кіраваць такім паходам.

Л я в о н ц ь е ў. Ну, добра, гэта стратэгія, бачу, сапраўды не па табе. Кажуць, што ты хадаком ад мужыкоў часта ў свайго князя быў? Суплікі насіў.

В а ш ч ы л а. І ў Слуцк, і ў Вільню, і ў Белую.

Л я в о н ц ь е ў. Дзе гэта?

В а ш ч ы л а. За Бярэсцем.

Л я в о н ц ь е ў. Гэта вы так у сябе Брэст-Літоўск завеце?

В а ш ч ы л а. Так.

Л я в о н ц ь е ў. То раскажы мне пра свайго князя? Што ён за чалавек?

В а ш ч ы л а. Багаты і хцівы. Мы доўга ўсім стараствам прасілі яго зменшыць падаткі, прыслаць добрых арандатараў. А ён адно абяцаў, але ўсё горшых і горшых прысылаў. А тыя і для сябе народ абдзіраюць, і для князя. Таму мы і не вынеслі, за зброю ўзяліся.

Л я в о н ц ь е ў. Ну, гэта зразумела. Але я не пра тое. Як князь жыве?

В а ш ч ы л а. Я з ім гарбату не піў. Праўда, калі хадзіў за хадака да яго, то размаўляць размаўляў. *(Усміхнуўся.)* Ідала ён за сябе ставіць перад палацам у Слуцку. Бадай, гэтым і заняты больш за ўсё, не да людзей яму.

Л я в о н ц ь е ў. Якога ідала?

В а ш ч ы л а. Ну, статую. Чалавека, на сябе падобнага, з мармуру.

Л я в о н ц ь е ў *(таксама ўсміхаецца)*. А-а, вунь ты пра што!..

В а ш ч ы л а. Сядзіць цэлы дзень на гульбішчы ды пазірае, як масцеравыя высякаюць з яго на плошчы статую.

Л я в о н ц ь е ў. Што ж, у князя свае забавы. На тое ён і князь. Ведае, мусіць, што чалавек не вечны на зямлі. Вось і клапоціцца пра будучае. Не баішся расплаты за бунт?

В а ш ч ы л а. Не, пан генерал. Мяне расплата цяпер не палохае. Быў ужо час на вашых харчах пра ўсё падумаць. Аб адным шкадую, што не раздзяліў лёс са сваім войскам, са сваімі войтамі ды сотнікамі. Усе яны пакараны ў Крычаве — каго на кол княскія жаўнеры пасадзілі, каго сабакамі зацкавалі, каго пад лёд на Сажы пусцілі... Гэта я дарэмна зрабіў, што ўцякаць кінуўся. З гарачкі гэта, не падумаўшы. Ды і надзея ў мяне спела — сабраць зноў па вясне войска... Гэтым і спакусіўся на ўцёк...

Л я в о н ц ь е ў. Значыць, не ўтрымаўся б ад ранейшага, каб на волі застаўся?

В а ш ч ы л а. Там відаць было б.

Л я в о н ц ь е ў. Вось што, гетман, раскажы ты ўсё пра крычаўскі бунт маёру, пакуль што да чаго. Як пачынаў бунт, што вы рабілі пры ім і чым скончылі. Князь твой пра сваю будучыню дбае, узводзячы помнік, а ты паклапаціся пра сябе. Няхай запіша манах за табой. Папера доўга жыве. Часам нават мёртвым даводзіцца апраўдвацца перад людзьмі. Ну, бывай, гетман.

Генерал-губернатар збіраецца выходзіць.

В а ш ч ы л а. А што са мной усё-ткі будзе, пан генерал?

Л я в о н ц ь е ў. Хутчэй за ўсё давядзецца цябе выдаць пасля камісіі князю. Сам паказаў — ягоны ты падданы. А ў такім разе злачынцаў мы павінны перадаваць туды, дзе яны рабілі злачынства. Так у дагаворы запісана, гетман.

В а ш ч ы л а. А сотнік мой? Як вы маеце паступіць з ім?

Л я в о н ц ь е ў. Ты лепей пра сябе думаў бы.

В а ш ч ы л а. Я ж спадзяваўся.

Л я в о н ц ь е ў. Падумаем, урэшце, гетман, і пра сотніка.

Г е н е р а л - г у б е р н а т а р выходзіць.

Гарнастаеў. Ну што, Вашчыла. Не хацеў у царкве спавядацца, давай перада мной. Генерал мае рацыю — папера жыве даўжэй за чалавека.

Вашчыла *(сумна)*. Наспавядаўся я перад вамі ўжо і без таго.

Гарнастаеў. Я вось пра што падумаў, Вашчыла, а што, сотнік твой — вернецца зноў у старасства, калі мы яго адпусцім? Ну, з той жа справай, пра якую генерал меў намер згаварыцца з табой?

Вашчыла. Угаворваць беглых рускіх, каб вярталіся назад сюды, у Расію?

Гарнастаеў. Так.

Вашчыла *(думае, затым гаворыць, паціскаючы плячамі)*. Хіба што...

## Карціна трынаццатая

Тая ж карчма ў Кіеве. Той жа карчмар і двое ранейшых — ротмістр Шленца і шляхціч Пішчык.

Шленца. Дык, кажаш, князь грошы шкадуе? А мы вось зараз за яго яснавяльможнае здароўе... *(Бярэ штоф, каб наліць шляхціну.)*

Пішчык. Не, трэба дачакацца абываценя. Ды і стаміўся я. Гэта ж столькі праскакаць. Ажно штаны баляць. Дзе той Крычаў, а тут ужо Кіеў.

Шленца. Як сабе знаеш, шляхціч, а я вось яшчэ глыну. *(П'е.)* Пакажы ліст князеў.

Пішчык. Не нашых вачэй гэта...

Шленца. Не дуры, шляхціч.

Пішчык дастае з-за пазухі скрутак, трохі трымае ў руках, а тады ўсёткі аддае. Шленца чытае.

Якое шляхецтва! Быццам брат да брата піша. Але ж ты не ўсё сказаў — князь піша, каб мы з табой ды са сваімі гусарамі суправаджалі забойцу Вашчылу на камісію ў Мглін.

Пішчык. Напэўна, гэта рускія павінны сказаць нам. Можа, ад іх згода патрэбна?

Шленца. Халера, пся крэў. Гэтак і да восені адсюль не выбрацца, з гэтай паганай Расіі.

Пішчык. Цыц! *(Глядзіць на карчмара.)* А вось і чалавек наш. *(Паварочваецца да дзвярэй.)*

У карчму заходзіць Чорны дзяцюк.

Шленца *(да яго)*. Сядай, твая мосць, частуйся. *(Налівае.)* Шляхціч кажа, што ты ўжо гатовы памагчы нам?

Чорны дзяцюк. Была такая змова.

Шленца. Дык што скажаш, пся крэў? Можа, перадумаў?

Чорны дзяцюк. Справа прывычная.

Ротмістр смяецца.

Шленца. Што значыць — прывычная?

Пішчык. Не чапляйся да чалавека, ротмістр! *(Пачынае браць на сябе размову.)* Плата тая ж застаецца і сродкі тыя — нож ці атрута. Калі не здолееш тут, у Кіеве, то па дарозе, будзеш следаваць за канвоем да самага Мгліна, але справу зробіш!

Шленца. Так, пся крэў, а то я жартаваць не стану, халера. *(Вымае з ножнаў шаблю напалавіну, ляскае ёю.)* Раз — і галава далоў!

Чорны дзяцюк. Навошта пан лаецца?

Пішчык. Ты не звяртай увагі. Гэта ротмістр страху наганяе. Але слоў звычайна на вецер не кідае.

Чорны дзяцюк. Тое і я раблю.

Пішчык кідае перад Чорным дзецюком важкі мяшочак. Той хапае амаль на ляту.

Шленца. Абмыць трэба, значыць, шляхціч, такую важную справу. *(Бярэцца за штоф.)* Не шкадуй князевых грошай! Гэй, карчмар, нясі новаму чалавеку свайго тухлага селядца! Ды і нам са шляхціцам на зуб што-небудзь падкінь!

Чорны дзяцюк не мае намеру піць, ківае Пішчыку. Ссутулены, выходзіць.

*(Як шкельца, ужо цвярозы.)* Штосьці не падабаецца мне ён, твой памагаты, халера? Ой, не даспадобы! Прыйшоў, чырвонцы згроб і лататы. Нават паху сабачага пасля сябе не пакінуў. Глядзі, шляхціч, не шукаў бы ён нас. Што – нас? Князя яснавяльможнага! Хіба сам верыш такому?

П і ш ч ы к. Па дарозе забойцы не валяюцца, ротмістр. А справу княскую трэба зрабіць. Што да даверу – дык тут я і сабе не дужа давяраю. Давядзецца, мой дабрадзею, папільнаваць – і тут, у Кіеве, і там, дзе гэта мецьме.

Ш л е н ц а. Ну, за літоўскую стражу, шляхціч. Віват! *(П'е.)* А то ўжо чорт сёння з'яўляўся ўначы. Да д'ябла чорта!

### Карціна чатырнаццатая

Турэмная камера ў Пячэрскай крэпасці.
Заходзіць м а н а х.

М а н а х *(да Вашчылы).* Сказана рыхтаваць цябе ў дарогу. Але там чалавек твой чакае. Дапусцілі.

В а ш ч ы л а. Пакліч.

Манах адчыняе дзверы, кліча с о т н і к а М і к о л у.

Дзень добры, сотнік.

С о т н і к. Дзень то добры, Васіль, вясна ўжо, лічы, на дварэ мінае.

В а ш ч ы л а. Мужыкі, нябось, адсеяліся ў нас?

С о т н і к. Калі было каму.

В а ш ч ы л а *(уздыхае).* Сон бачыў сянні. Кідаліся ўсю ноч сабакі на мяне. Нібыта і я ў мядзведжай шкуры, як і войт Іван. Кажаш, у мядзведжую шкуру князь загадаў зашыць Карпача?

С о т н і к. Сам я не бачыў гэтага, але сведкі ў Крычаве былі тады. Няйначай, праўда, войт. *(Пасля маўчання.)* Рускія мяне адпускаюць у староства.

В а ш ч ы л а. Хвала Богу.

С о т н і к. Ва ісціну, войт.

**Вашчыла.** Мартына ў сне бачыў таксама. Каб не здарылася што з ім. Якаў ужо дарослы, не страшна, а вось гэты... Скруха мая... Ды не дужа падбівай мужыкоў, каб вярталіся. Бо там пан, тут – барын. Што той, што гэты. Адна панская няволя. Гавары ўсім, што да позняга Спаса таксама аб'яўлюся ў старастве. Няхай не забываюць. Дый дарога на суд доўгая, а вось...

**Сотнік** *(косіцца на манаха).* Палякі ўсё чамусьці па корчмах шушукаюцца.

**Вашчыла.** Не разляцелася вараннё?

**Сотнік.** Крумкае.

**Вашчыла.** Крумкачы – на падаль.

**Сотнік.** Свят, свят, войт! *(Махае рукой.)* Дарога да Мгліна сапраўды доўгая. Гэта мне прэм'ер-маёр казаў, што цябе нібыта мусяць везці ажно ў Мглін. Да старaства адтуль рукой падаць.

**Вашчыла.** Вось і я думаю. Таму й гавары ўсім, што... *(Маўчыць.)* А хараша мы з табой спявалі, Мікола, той раз. Ажно манах вось пазайздросціў, чорная ў яго душа!.. Так і не зразумець – каму служыць, Госпаду Богу ці мамоне?

**Манах.** Мы – прыслужваем.

**Вашчыла.** Служыць альбо прыслужваць – адно і тое. Ці многа ж табе даюць за мяне?

**Манах.** Пабойся Бога, чалавеча. Дзе гэта знойдзеш, каб забойцу ды так вось утрымлівалі, акурат важную персону?

**Вашчыла** *(паказвае на ланцугі).* А гэта?

**Манах.** Путы цялесныя – не путы душэўныя. Сказана, у царкву перад дарогай звадзіць цябе.

**Вашчыла.** Перад смерцю памалюся ўжо. Недзе пасля.

**Манах.** Ведама, бязбожнік. А за хлеб-соль трэба дзякуй сказаць.

**Вашчыла.** Што ў гэтым разумееш, чарнец!.. *(Да сотніка.)* Я многа думаў, Мікола, якую мы памылку дапусцілі пад Крычавам, што нас разбілі. Трэба было ўсё ж паслаць Ветраў атрад на дрыбінскую дарогу, каб пераняць княскіх драгунаў з артылерыяй. Сам не дадумаўся, а сотнікі не падказалі, хоць і ведалі, што з Невеля ідзе асаджаным падмога.

**Сотнік.** Што цяпер успамінаць?

Вашчыла. Не, сотнік, не. Мне за ўсё адказваць – і перад паўстанцамі, і перад Богам. Праўда, з Богам мы неяк паразумеемся пасля. А вось мужыкі... Збіраў, абяцаў, што волі даб'ёмся, а зладзіць усё як трэба не здолеў. І ў Царковішчы не так усё выйшла. Пра гэта толькі і шкадую цяпер. Будзеш у Відуйцах – скажы Пёкле, няхай таксама не памінае ліхам, кахаў яе, адна ўцеха была пасля смерці жонкі.

Сотнік. Рана яшчэ, войт, адпяваць сябе.

Вашчыла. Ну, пра гэта адзін Бог ведае, сотнік. Я гэта, каб усё па-людску паспець. Але ідзі, у Кіеве не затрымлівайся, раз ужо так выйшла, што такую магчымасць далі табе. Сянні так, а заўтра можа іначай выйсці. Бывай, сотнік. *(Устае з лаўкі, абдымае таварыша.)* Сына майго глядзі, у крыўду не давай.

Манах выводзіць сотніка з камеры.

## Карціна пятнаццатая

Карчма на дарозе.
Тут ужо сядзіць за сталом Чорны дзяцюк.
Рускія стражнікі вядуць у ланцугах Вашчылу. У гэтай кампаніі – Шленца і Пішчык. Рускія стражнікі падводзяць Вашчылу да стала амаль на покуці, блізка да Чорнага дзецюка. Самі сядаюць за другі стол. За трэцім размяшчаюцца літоўскі ротмістр і шляхціч.

Шленца *(крычыць карчмару)*. Гэй, кацап! Стаўляй на стол што ёсць! *(Звяртаецца да стражнікаў.)* І вы, паны рускія, не пагрэбуйце. Сядайце з намі, няма чаго чыніцца. У шляхціча грошай хапае, тым больш – у нашага яснавяльможнага князя.

Рускія колькі часу раздумваюць, тады сядаюць разам.

Вы пільнуйце, пся крэў, гэтага злачынцу *(паказвае на Вашчылу)*, мацней пільнуйце, князь чакае не дачакаецца яго ў Слуцку. От пацеха будзе! Нават зоркі на небе захістаюцца ў жаху, халера!

Першы стражнік. Мы служым...

Другі стражнік. Ад нас не ўцячэ!

П е р ш ы   с т р а ж н і к. А што ён такое зрабіў, што гэткая пільнасць за ім спатрэбілася?

Ш л е н ц а *(хапаецца за шаблю)*. Я от!..

П і ш ч ы к *(памяркоўна)*. Што робяць зладзеі? Рабуюць, забіваюць.

П е р ш ы   с т р а ж н і к. Але я чуў, што вязём мы яго нібыта, каб перадаць на граніцы ў Мгліне вашаму цару?

Ш л е н ц а. Не крулю, а князю, літоўскаму падчашаму яснавяльможнаму Радзівілу Гераніму.

Д р у г і   с т р а ж н і к. Што гэта — пад чашаю?

Ш л е н ц а *(са злосцю)*. Не пад чашай, пся крэў, а падчашы!

Д р у г і   с т р а ж н і к. Дык хто вы — палякі ці як?

П і ш ч ы к. Літоўцы мы Рэчы Паспалітай.

П е р ш ы   с т р а ж н і к. Значыць, не хрысціяне?

П і ш ч ы к *(пакрыўджана)*. Чаму раптам не хрысціяне? Я — праваслаўны шляхціч, ротмістр — каталік.

Д р у г і   с т р а ж н і к. Дык хто ж з вас нехрысць у Літве?

Ш л е н ц а. Ат, не па тваім розуме гэта, кацап!.. Праваслаўны, каталік, вуніят!.. Пі вось, пакуль даюць, пся крэў, а пан шляхціч не пашкадуе тым часам князевых злотых.

Д р у г і   с т р а ж н і к. Выпіць — можна, чаму не выпіць, але няхай карчмар накорміць і ланцужніка.

П і ш ч ы к. Кормныя ж вам і на яго выдалі?

П е р ш ы   с т р а ж н і к. Выдалі-то выдалі, але ж кішэня ў майго таварыша дзіравая. Вось і выпала манетка са штаноў па дарозе. Цяпер ступай, знайдзі яе ў пыльным пяску. Не, паны палякі, вы ўжо, будзьце ласкавы, не пашкадуйце князевых злотаў і на яго.

Ш л е н ц а. Ты, кацап, не прыдурвайся!

П е р ш ы   с т р а ж н і к. А што гэта ты, пан ротмістр, усё кацап ды кацап? Гэта абразліва ў нас.

Ш л е н ц а. Эйш, пся крэў!

П е р ш ы   с т р а ж н і к. І гэта неяк па-сабачаму.

П і ш ч ы к *(умешваецца)*. Добра, я заплачу. Здаецца, яшчэ пару злотых затрымалася ў кішэні. Але каб апошні раз, паны рускія.

Д р у г і  с т р а ж н і к *(махае рукой).* Давай, гані, а там відна будзе.

П і ш ч ы к *(да карчмара).* Дай паесці злыдню! *(Ківае галавой на Вашчылу.)* Плачу і за яго, каб яму пуста! Толькі і ведаю, што на ўсякую свалату трачуся!

Ш л е н ц а. А дзе твая шынкарка, шынкар? Хаваеш пенкну пані? А то ў Кіеве адну я ўпадабаў быў. О, вельмі пенкна і пакладзіста была, пся крэў.

П і ш ч ы к *(смяецца).* Пан ротмістр, я ўжо і не ведаю, на які рахунак адносіць твае заляцанні?

Ш л е н ц а. Згінь, шляхціч!

У карчме робіцца шумна ад людской гаманы. Расчыняюцца дзверы, заходзіць абарваны ч а л а в е к з жабрацкай торбай і лірай. На твары ў яго – выпалены знак: няскончаная пятля, акурат запытальнік. Чалавек доўга стаіць незаўважаны, тады накіроўваецца да стала, за якім сёрбае з міскі звязанымі рукамі Вашчыла. Той падымае галаву, пазнае. Гэта – ягоны пісар Іван Бочка.

*(Нарэшце заўважае вандроўніка).* Куды прэш, быдла? Не бачыш хіба, што нельга? Не бачыш, што гэта злачынца? Ану – прэч, пся крэў!

Першы стражнік кідаецца стаць паміж пісарам і Вашчылам. Хапае пісара за грудзі. І раптам адхінаецца – чуе, як чалавек адно мармыча ды знявечаны паказвае язык у роце. Махае рукой.

П е р ш ы  с т р а ж н і к. Няхай сабе сядзе. Калека ён, шкоды не наробіць. Ні языка ў роце, ні мовы.

П і ш ч ы к. Калека ён, кажаш? *(Доўга глядзіць на пісара.)*

П е р ш ы  с т р а ж н і к. Без'языкі нават. *(Зноў махае рукой – маўляў, што з яго ўзяць?)* Чорт з ім, няхай сядае, шляхціч, дзе хоча!..

Пішчык пераводзіць позірк на Чорнага дзецюка, неўпрыкмет маргае.

П і ш ч ы к *(да ротмістра і стражніка).* Добра, няхай сядзе.

Застолле са Шленцам на чале зноў пачынае шумець. Пішчык раз-пораз кідае позірк на Чорнага дзецюка, але той нібыта нікога не заўважае і нікога не слухае.

В а ш ч ы л а *(ціха).* Пісар, ты?

Пісар ківае галавой, апускаецца на ўслон, насупраць Вашчылы.

На, еш. І маўчы. Я ведаю, што ў цябе язык адрэзалі княскія суддзі. Значыць, мала ад цябе цяпер толку. Хіба што... Ладна я буду гаварыць, пакуль шляхта ды стражнікі гуляюць, а ты ківай мне галавой ці вачамі паказвай. Лепш, канечне, вачамі, тады падобна будзе, што гэта я сам з сабой размаўляю.

Пісар плюскае вачамі.

Сотнік Мікола паслаў?

Пісар зноў плюскае вачамі.

Значыць, дабраўся да старасства ён?

Пісар плюскае вачамі.

*(Як у адчаі.)* Ах, пісар, пісар, як мне патрэбен твой цэлы язык! Раней была патрэба ў тваім гусіным пяры ды атраманце, а цяпер — жывое слова ад цябе чуць хочацца. Дзе мой сын Мартын? Мікола не гаварыў?

Пісар падае станоўчы знак.

Жывы?

Пісар плюскае вачамі.

Дзе ж ён цяпер, па-ранейшаму ў беладубраўскага папа?

Пісар адмоўна ківае галавой.

Але ў старастве?

Пісар круціць галавой.

А Якаў? Жывы?

Пісар пацвярджае.

Ну й за тое хвала Госпаду Богу. Хоць дзяцей княскім слугам не ўдалося высачыць. А шукаюць?

Пісар плюскае вачамі.

Што ж робіць сотнік?

Пісар не ведае, як растлумачыць.

Я хацеў спытаць... Зрэшты, што я хацеў спытаць — гэта... Без'языкаму чалавеку нельга на гэта адказаць. Вось што князь

нарабіў: не толькі твар знявечыў, але і мовы пазбавіў. Мне ж тым часам многа, вельмі многа трэба распытаць у цябе. Ды не ведаю, як гэта зрабіць!.. Сотнік перадаваў што-небудзь?

Пісар адмоўна ківае галавой.

На словах загад даў?

Пісар плюскае вачамі.

Але ж якія тыя словы? Які той загад. Мне трэба ведаць.

Пісар спярша плюскае вачамі, тады адмоўна ківае галавой.

Гора наша, гора! Без языка пісар народны, без мовы — народ. Ну, а нашто ж ён усё-ткі паслаў цябе праз граніцу? Дарэчы, дзе ты яе пераходзіў? У Латаках?

Пісар адмоўна ківае галавой.

Нічога не разумею!.. Значыць, тут, супроць Хоцімска, перайшоў? Дык дзеля чаго ты ўсё-ткі прыйшоў сюды, ажно ў чужую краіну, пісар?

Пісар ставіць два пальцы на стол, перабірае імі, паказвае на Вашчылу.

Зразумела. Будзеш ісці ўслед за мной. Куды мяне павязуць, туды й ты пойдзеш. Выручаць сотнік не збіраецца мяне? Людзей падрыхтаваў? Ты адзін?

Пісар плюскае вачамі.

Дык ты адзін?

Пісар зноў плюскае вачамі.

Але якая карысць тады хадзіць табе за мной, хлопча? Я табе сам сказаў — вязуць мяне ў Мглін, гэта мястэчка за Старадубам, будзе там камісія разбіраць маю справу, каб перадаць пасля Радзівілу. Так што, калі ты за гэтым прыйшоў, то ідзі адсюль адразу ў Мглін, а мяне, дасць Бог, прывязуць. Калі маеш як перадаць сотніку, дай ведаць: войта моцна ахоўваюць. А цяпер ідзі, калі не галодны. Няварта табе тут затрымлівацца, у гэтай карчме. І не падыходзь да мяне больш без вялікай

патрэбы. Пабачымся ў Мгліне, пісар. Ці ж многа там нашых засталося ў старастве?

Пісар плюскае вачамі, тады адмоўна ківае галавой.

Ладна, ідзі.

П і с а р выходзіць.

## Карціна шаснаццатая

Кірмаш у прыгранічным мястэчку. Ш л я х ц і ч П і ш ч ы к і р о т м і с т р Ш л е н ц а шнырадь паміж вазоў. Пішчык з вялікім плеценым кашом. Купляюць правізію. Шляхціч прыцэньваецца да пеўня.

П і ш ч ы к *(абураны)*. Халера, гэта ж каб ведаў хто ў Польшчы, чым тут, у Масковіі, займаемся! Прыродны шляхціч курэй на кірмашы мацае!

Ш л е н ц а. Але ж не ўвесь час нам, пся крэў, па шынках ацірацца. Кацапы гэтыя хоць і чысты народ, але клапы і ў іх ёсць. Так што мацай курэй, шляхціч, раз слугі пры сабе не маеш.

П і ш ч ы к. Нібыта ротмістр мае!..

Ш л е н ц а. У ротмістра пакуль хоць гусары былі. Гэта рускім нечага ўздумалася не пусціць іх з намі, у Літву адаслаць. Нібыта з чатырма гусарамі мы сталіцу іхнюю захапілі б. Ну, а тым часам афіцэру княскай харонгі не да твару курэй мацаць. Да таго ж казной агульнай пан шляхціч загадвае. Мог бы маладзіцу якую наняць, каб тая на кірмаш схадзіла. Хоць бы гаспадыню нашу, дзе мы цяпер на пастоі.

П і ш ч ы к. Маладзіцы, пераспаўшы ноч з ротмістрам, нос дзяруць, прыродным шляхцічам памыкаюць.

Ш л е н ц а. Не зайздросць, шляхціч, кожнаму сваё. Але дзе той гіцаль, пся крэў?

П і ш ч ы к. Не выйшла пара яшчэ, пан ротмістр. Я вось пра што думаю — ці не здагадваецца шаноўны пан, што нас знарок падоўгу ў дарозе затрымліваюць? Што б гэта значыла? Можа, рускія зноў штосьці задумалі?

Шленца. Кажуць, царыцу ў гэтым краі хутка чакаюць...

Пішчык. Іх не зразумець, гэтых рускіх! То крычаўскі бунтар Вашчыла іх цікавіць, то раптам царыца!

Шленца. А так і разумей, што я нездарма кажу – не бліжэй, як да Пакроваў нам тут вандраваць. Таму не даражыся, шляхціч, плаці за гэтага гусака *(паказвае на пеўня)*, будзем сілы мацаваць.

Пішчык *(смяецца)*. Хіба што! Ці ж пан ротмістр вытрымае?

Праз натоўп прабіраецца сюды Чорны дзяцюк.

А вось і ён!

Шленца. Чакаць прымушаеш, пся крэў! Не за тое плоцім!

Чорны дзяцюк *(недаступна)*. Сам ведаю, за што мне паны грошы плацяць.

Пішчык. Дакладвай – аб чым Вашчыла з тым без'языкім размаўляў?

Чорны дзяцюк. Не ўсё зразумеў. Адзін жа – нямко. А гэты Вашчыла не дужа адкрываўся. Хітры вельмі.

Пішчык. Я адразу пазнаў яго – Вашчылаў пісар. Сын войта Бочкі. Дарэчы, у князевай школе ў Слуцку навучаўся разам з дзецьмі прыроднай шляхты.

Шленца. Навучыў на сваю галаву яснавяльможны князь! А ён замест таго, каб князю аддана служыць за ласку, да бунтаўшчыкоў падаўся, пся крэў. Чаму разам з бацькам на кол не пасадзілі гіцля?

Пішчык. Так яснавяльможны князь рашыў – няхай з таўром на твары па свеце бадзяецца, нагадвае іншым, што іх чакае, калі за зброю супроць князя схопяцца. Ну, а для чаго мову адабраў? Дык тут таксама зразумела. І песню не заспяваеш, і быліну не раскажаш. Так што з паўстання таго – адзін пшык.

Шленца. Але чаму ён тут, за мяжой, апынуўся?

Чорны дзяцюк. Я так зразумеў з размовы, што ён адтуль, са старасваа, Вашчылавымі людзьмі падасланы.

Пішчык. І пра што яны гаварылі?

Чорны дзяцюк. Змова ў іх нейкая. Ці не збіраюцца яны адбіць па дарозе Вашчылу. Але цяжка было зразумець да канца. Адзін увесь час маўчыць, а другі невыразна пытае.

Шленца. Да князя далёка.

Пішчык. Тады палкоўніку ў Крычаў.

Шленца. Хто паедзе туды? Нам жа з табой не дазволена адлучацца.

Пішчык. Тады трэба самім рашаць. Але нябогу гэтага пакідаць жывым нельга.

Шленца. Халера! *(Думае.)* Давядзецца табе *(звяртаецца да Чорнага дзецюка)* і гэтым заняцца.

Чорны дзяцюк. Не ўжо, паны, пра гэта няхай вашы галовы баляць. Мяне вы змаўлялі на адну мокрую справу, за адну плацілі. Яе і пільнавацца буду.

Шленца. Шляхціч заплаціць табе і за гэта.

Чорны дзяцюк. Маё слова непарушнае.

Шленца. Што табе ўрэшце каштуе — дзе адна душа ў рай паляціць, там і другая? На тым свеце ўсё роўна давядзецца адказваць. Дык чаму тады не за двух?

Чорны дзяцюк. Гэта мне ўжо рашаць.

Пішчык. Дзе ён цяпер, той нямко?

Чорны дзяцюк. Яшчэ зранку падаўся па старадубскай дарозе.

Пішчык. У цябе ўсё гатова?

Чорны дзяцюк. Для Вашчылы?

Пішчык. Так.

Чорны дзяцюк. Ну, пра што ў вас таксама галовы няхай не баляць. Я сваю справу знаю.

Шленца. Але мог ужо за час, як рухаемся з Кіева, справіцца! Тады б і гэтай не ўзнікла!

Чорны дзяцюк. Самі бачыце, рускія ні на крок не адыходзяць.

Шленца. Ну, яны свой клопат маюць, а ты павінен пра свой дбаць.

Чорны дзяцюк. Я ўвесь час і дбаю.

Шленца. Але глядзі, калі што, пся крэў, ад маёй шаблі не ўхілішся!

Пішчык *(да Чорнага дзецюка).* Добра, ідзі.

Чорны дзяцюк адыходзіць.

Нічога не зробіш, ротмістр, давядзецца табе заняцца Вашчылавым пісарам. Сядай на каня і дагані яго ў ціхім месцы.

Шленца. Яшчэ гэтага мне не ставала, халера! Мог бы і сам, шляхціч!

Пішчык. Яно праўда, пан ротмістр, але мне неяк не з рукі гэта.

Шленца. Хочаш чыстымі мець рукі?

Пішчык. Грэх адзін — што твой, што мой. Аднолькава на тым свеце спытаюць.

Шленца. Рана сабраўся, шляхціч, на той свет.

Пішчык. Рана — не рана, але і пра гэта клапаціцца ўжо трэба. Свят, свят!

## Карціна сямнаццатая

Княскі палац у Слуцку. На плошчы перад палацам дойліды высякаюць князю помнік. Падыходзіць Радзівіл. Глядзіць, тады лезе па сходках да сваёй галавы.

Радзівіл. Я сам! *(Бярэ малаток, долата. Нешта папраўляе на мармуровым твары.)* У мяне нос з гарбіной, а вы яго робіце як лыжу!

Дойлід. Мы па мадэлі, яснавяльможны князь.

Сапраўды, каля помніка стаіць зменшаная мадэль помніка.

Радзівіл *(злуе).* Па мадэлі, па мадэлі! Мадэль рабілі ў Фларэнцыі, а тут Слуцк! Тут я пры вас. Глядзіце вось на жывую мадэль і высякайце як трэба. Не мне ж за вас працаваць? А то нядоўга і ў лёхі трапіць!

Да статуі падыходзяць двое — афіцэр і цывільны, судзейскі.

*(Спускаецца па сходцы ўніз. Нібыта пакрыўджаны. Да афіцэра і судзейскага.)* Кажу лайдакам — у мяне нос з гарбіной, вось бачыце *(паказвае на свой нос)*, а яны лыжу нейкую з яго ро-

бяць. Дармаеды, пся крэў! Пасаджу на ваду і хлеб — адразу згаворлівымі стануць!

Афіцэр і судзейскі маўчаць.

Гатовы ў дарогу, паны камісары?

Афіцэр. Так ёсць, яснавяльможны. *(Схіляецца.)*

Радзівіл. Але спяшацца таксама не варта. Мне пішуць з Расіі, што ў прыгранічныя палкі свае прыязджае імператрыца іхняя Лізаветка. Думаю, што там цяпер не да вас будзе, дарма што кіеўскі генерал у пісьмах прыспешвае ваш прыезд. Паедзеце праз Крычаў у Мглін. Там будзе засядаць камісія — з іхняга боку два камісары і з майго два. Выбраў вось вас.

Афіцэр. Дзякуй за давер, яснавяльможны.

Радзівіл. Справа ідзе пра перадачу Вашчылы ў мае рукі. Але хачу папярэдзіць паноў камісараў — не дужа ён патрэбны мне будзе тут пасля расследавання. Яны ж захочуць ад яго ведаць дакладна, што адбылося ў старастве. Відаць, сілічоўскі войт ужо і так наплявузгаў абы-чаго. Пэўна, што рускім таму карціць выставіць мяне крыважэрцам перад Еўропай. Маюцца ў іх і іншыя прэтэнзіі да мяне, нібыта я сілай трымаю беглых у сваіх маёнтнасцях. Не выдаю назад, як гэта змоўлена па дагаворы аб вечным міры. Але дапусціць гэтага нельга! У Расіі вы адшукаеце ротмістра Шленца і шляхціча Пішчыка. То мае верныя людзі. Перадасце на словах — ранейшы загад не адмяняю. Няхай кіруюцца ім.

Афіцэр. Так ёсць, яснавяльможны.

Радзівіл *(да судзейскага).* А вам загадваю выставіць рускім нашы прэтэнзіі — гэта яны правакавалі бунт у старастве. Таму трэба мець пры сабе інкрымінуючы матэрыял. Лепей за ўсё падрыхтаваць надзейнага сведку. Можна адсюль такога ўзяць, а то пашукаць у Крычаве, з ліку паўстанцаў. Сілай прымушаць не варта. Апынуўшыся за граніцай, зняволены можа даць любую нечаканасць. Абяцайце грошы. Гэты сродак мала калі не апраўдваў сябе. Да таго ж няхай палкоўнік Пястрыца адбярэ на месцы заложнікаў з сям'і таго, на кім спыніце ўвагу.

Судзейскі. Так, яснавяльможны.

Радзівіл. Ты, пан маёр, будзеш мець пасля вяртання ў Слуцк новы чын. Не пакіну без маёй княскай міласці і цябе. *(Паварочвае галаву да судзейскага.)* Вядома, калі ваша місія будзе мець поспех. А без гэтага можаце сюды не вяртацца.

Афіцэр. Слухаем, яснавяльможны. Мы вашы слугі.

Радзівіл. Яны вунь *(паказвае на майстроў на рыштаваннях)* таксама мае слугі, пся крэў, а нос на маёй мармуровай выяве даводзіцца самому папраўляць! *(Зноў падымаецца па сходках, бярэ ў аднаго з дойлідаў малаток, долата, ляскае па мармуры. Тады нешта крычыць, спускаецца ўніз.)* Халера, хоць ты зусім не адыходзь ад лайдакоў. Трэба ўсё-ткі выклікаць каменшчыкаў з Італіі. Дарэмна паспадзяваўся на сваіх. Колькі ні вучы — толку мала. *(Да афіцэра.)* Не выключана магчымасць, пан маёр, што былыя хаўруснікі Вашчылавы, якім удалося ўцячы, замысляць ўратаваць свайго верхаводу. Такая пагроза таксама існуе, тым больш што дарогі праз граніцу ў Расію ім вядомыя. Таму ўсялякую падобную спробу неабходна прадухіліць. Калі ж справа сапраўды дойдзе да расследавання на камісіі, не саромцеся рускіх — чым болей выставіце прэтэнзій да іх, тым лепш для вашага князя. Але спадзяюся — Езус Хрыста не давядзе да гэтага. Перадайце пану палкоўніку ў Крычаве, каб не спыняў пошукі дзяцей бунтаўшчыка. Мне яны патрэбны, можа, найбольш, чым сам Вашчыла цяпер.

Афіцэр. Так ёсць, яснавяльможны князь!

Радзівіл. Ну, ступайце з богам.

Афіцэр і судзейскі кланяюцца, адыходзяць. Радзівіл зноў лезе па сходках да статуі.

*(Крычыць.)* Нос! Нос рабіце спярша, а тады ўсе астатнія члены!

## Карціна васямнаццатая

По дарозе ідзе Вашчылаў пісар. Сядае на абочыне, слухае, як у прыдарожным лесе спяваюць птушкі. Іграе на ліры. Нечакана з'яўляецца ротмістр Шленца.

Шленца. Далёка ж ты, пісар, зайшоў. Ледзьве дагнаў.

Пісар ускоквае.

Думаў, ніхто цябе не пазнае тут, пся крэў! Не, ад слуг нашага князя не так проста знікнуць. Але ж і распісалі цябе, пся крэў!

Пісар маўчыць.

Я ведаю, у цябе няма языка. Язык твой сабакі ў Крычаве з'елі. Але маўчы ды слухай. Гаварыць буду я, а ты пацвярджай мае словы ці адмаўляй. Галавойківай, калі так — калі не. Зразумеў? Як з Вашчылам!

Пісар нерухома глядзіць на ротмістра.

Хто цябе накіраваў у Расію — Вашчылавы хаўруснікі?

Пісар адмоўна ківае галавой.

Значыць, сам зайшоў сюды, пся крэў? Ішоў сабе, ішоў ды вось тут і апынуўся? А чаго з Вашчылам сустрэчы шукаў?

Пісар не падае знак.

Так, выпадкам зайшоў у карчму?

Пісар ківае галавой.

Не лічы нас за дурняў, пісар! Нам вядома, пра што вы са сваім атаманам гаварылі. У нас і ў карчме вушы былі, дарма што самі выгляд рабілі, быццам не пазналі цябе, за калеку чужога палічылі. Ну, гавары, пся крэў, — змову задумалі. Вашчылу наважыліся вызваліць?

Пісар адмоўна ківае галавой, нешта мармыча, махае рукамі.

Так я табе і паверыў! *(Дастае шаблю.)* Не прызнаешся — уміг адсяку галаву. І на кол пасаджу, будзе як з тваім бацькам, войтам Бочкам. Ты ж таксама Бочка?

Пісар ківае галавой.

Але ж пакінуў цябе князь жывога на нашу галаву. Думаў, будзеш бадзяцца вось так па старастве, палохаць людзей сваім выглядам. Памыліўся яснавяльможны князь. Такім, як ты, мала язык адрэзаць, трэба яшчэ вочы выкалаць і вушы свінцом заліць. А то што гэтая вісельня? Другія змоўшчыкі ёсць з табой?

Пісар адмоўна ківае галавой.

Гавары тут, а то мы знойдзем месца для больш зручнага допыту. Там і без'языкі загаворыць! Дык ёсць дзе паблізу яшчэ злачынцы вашы?

Пісар адмоўна ківае галавой.

Не хочаш прызнавацца – рыхтуйся да смерці. Жывога я цябе адсюль не пушчу. Ну, пся крэў?

Пісар не рухаецца. Гэта яшчэ мацней выводзіць з раўнавагі ротмістра. Ён тупае нагамі, замахваецца шабляй. Бачыць, што пісар і цяпер не баіцца.

Добра, пся крэў, не хочаш хаўруснікаў выдаць, пагаворым пра іншае. Вашчыла многа золата нарабаваў?

Пісар паціскае плячыма. Спрабуе нешта мармытаць.

Ты мне язык свой паганы не паказвай. Схавай! А то яшчэ ўночы твая мярзотная пыса прысніцца! Дзе схаваў Вашчыла золата, пакажаш? Зараз вось пасаджу цябе на каня ззаду ды разам гайда за граніцу. А там ужо я цябе адпушчу, пся крэў! Жыві. Мне толькі золата Вашчылава трэба. Пакажаш?

Пісар не падае знаку.

Быдла, жыць не хочаш?

Пісар не адказвае.

Але ж не так ты ў гэту кацапію зайшоў? Нешта ж маеш за душой? Не верыш, што адпушчу? Дурань, мне ты не патрэбны. Мне важна забраць Вашчылава золата, а з ім жа я і ў Саксонскім курфюрстве знайду месца. Значыць, не хочаш па-чалавечы? Тады маліся! *(Зноў палохае шабляй.)*

Пісар паказвае штосьці рукамі, мармыча.

Ды не высоўвай ты свой недарэзак гэты, пся крэў! Не магу глядзець на яго!

Пісар адварочваецца ад ротмістра, ідзе прэч. Шленца даганяе, тыцкае ў грудзі шабляй.

Гульню задумаў са мной, пся крэў! Хаўруснікаў не выдаеш і золата не хочаш паказаць. Што ж, твой лёс быў у тваіх руках, пісар. Атрымлівай! *(Сячэ пісара.)*

## Карціна дзевятнаццатая

Палкавая канцылярыя ў Старадубе. Тут палкоўнік Максімовіч. Стражнікі ўводзяць Вашчылу.

Максімовіч. А-а, гетман...

Першы стражнік. Пан старадубскі палкоўнік, дзяржаўны злачынца дастаўлены ў ваша карыстанне. Жывы і цэлы!

Максімовіч. Дзякуй за службу, сяржант. Па дарозе не здарылася непрадбачаных акалічнасцей?

Першы стражнік. Не, пан палкоўнік.

Максімовіч. А палякі, дзе палякі?

Першы стражнік. На ганку. Іх не пусціла сюды ваша варта.

Максімовіч. Няхай пастаяць. Яшчэ раз дзякуй за службу, сяржант. За матухнай імператрыцай служба так не застанецца. Будзеце адзначаны. А цяпер я напішу рапарт генералу, што падканвойнага прыняў асабіста. *(Піша, затым аддае рапарт сяржанту.)*

Абодва стражнікі выходзяць.

*(Паварочваецца да Вашчылы.)* Дай-тка паглядзець на цябе, гетман. Ды ты сядай. Прабач, што ад ланцугоў не магу вызваліць. Не паложана. На гэты конт строгія ўказанні маю з Санкт-Пецярбурга. Чуеш, і там пра цябе ведаюць? Нарабіў ты спраў, гетман.

В а ш ч ы л а. Чаму і вы называеце мяне гетманам?

М а к с і м о в і ч. Сам жа, нябось, велічаў сябе так?

В а ш ч ы л а. Не, гэтага я не рабіў. Бо навошта было? Сам я чалавек просты, і выдаваць мне сябе за кагосьці іншага перад людзьмі было б сорамна.

М а к с і м о в і ч. Гэта я к слову пра гетмана. Чуў, як генерал у Кіеве называў цябе.

В а ш ч ы л а. Ну, можа, генералу сорамна было важдацца з мужыком. Але за гетмана, а тым больш за ўнука Багданава я не выдаваў сябе.

М а к с і м о в і ч. Вось што, гетман. Дазволь ужо і мне называць цябе так. Зараз цябе адвядуць у астрог. Там будзеш чакаць. Па-першае, князевы прадстаўнікі на камісію яшчэ не з'явіліся з Рэчы Паспалітай, нешта не вельмі спяшаюцца, а па-другое, мне цяпер няма часу. Да нас едзе з Санкт-Пецярбурга Яе Вялікасць Імператрыца Елізавета Пятроўна. Таму выступаю сёння з палком на сустрэчу. Ну, а ты, гетман, чакай. Нарабіў шуму на дзве дзяржавы — цяпер трывай. І яшчэ — твая сям'я таксама перайшла граніцу. Нявестка і сыны. Яны ў Почапе.

В а ш ч ы л а. Жывыя?

М а к с і м о в і ч. Ім што! Думаю, што палякі не стануць патрабаваць іх ад нас, ды і адкуль ім уведаць пра гэта?

В а ш ч ы л а. Тут жа аціраюцца княскія слугі — ротмістр і шляхціч. Самі ведаеце, на ганку чакаюць. Усю дарогу з Кіева разам ехалі.

М а к с і м о в і ч. Гэта з Кіева, а тут Старадуб. Тут мая ўлада, гетман. Не хочаш, каб выдалі мы цябе палякам?

В а ш ч ы л а. Я ўжо і сам не ведаю, пан палкоўнік, што лепей. Вы ж таксама, відаць, цяпер мяне на волю не пусціце?

М а к с і м о в і ч. Ну, у нас застанешся хоць жывы. Астрогу табе, вядома, не пазбегнуць, але што астрог супроць смерці? Князь жа цябе не пашкадуе.

В а ш ч ы л а. Не пашкадуе.

М а к с і м о в і ч. Вось бачыш, сам разумееш.

В а ш ч ы л а *(уздыхае)*. Але я сам ужо шкадую, пан палкоўнік, што не раздзяліў лёс тады, у Крычаве, са сваімі войтамі

ды сотнікамі. Нядобра гэта, не па-хрысціянску выйшла ў мяне.

Максімовіч. Чаму ж уцякаў?

Вашчыла. Была думка. Спадзяваўся, што тут, у Расіі, пра мяне ніхто не ўведае, атрымаю пашпарт на жыццё, а там відаць будзе.

Максімовіч. Нябось, зноў меў намер вярнуцца ў старадства?

Вашчыла. Замышляў, пан палкоўнік.

Максімовіч. Значыць, ты заняты злачынца, гетман. Чаго ж дамагаешся?

Вашчыла. Волю трэба даць людзям.

Максімовіч. А што яны з воляй рабіць стануць?

Вашчыла. Воля — ёсць воля.

Максімовіч. Вось стаў бы сапраўды гетманам — пачаў бы сам заганяць мужыкоў у няволю. Гэтым усё і скончылася б тваё паўстанне. Бунт — страшная рэч, Вашчыла. Вынікі яго звычайна прадказаць нельга. А што не просіш за сыноў? Ды і ўнук у цябе з'явіўся.

Вашчыла. Нявестка якраз у вясну збіралася нарадзіць. За сыноў цяпер, відаць, трэба Бога прасіць.

Максімовіч. Бога? Што ж, Бога таксама. Каго ты з сыноў хочаш бачыць?

Вашчыла. Меншага, Мартына.

Максімовіч. Што ж, гетман, на волю я цябе, сам ведаеш, адпусціць не магу, на тое не мая палкоўніцкая ўлада, а вось сына ў Старадуб магу загадаць даставіць.

Вашчыла. І на тым дзякуй.

Максімовіч. А што сотнік твой, ну той, што ў Кіеве быў, чалавек надзейны? Сапраўды, з ім справу можна мець?

Вашчыла. Для мяне — надзейны.

Максімовіч. Для цябе... Бывай, гетман. Мне трэба спяшацца з палком. Але князь Радзівіл увесь час даводзіць, што ты нібыта золата многа нахапаў там?

Вашчыла. Якое золата, пан палкоўнік!.. Па ўсім старастве нядоімкавыя квіткі знішчыў, па якіх мужыкі павінны былі плаціць у князеву казну. Вось ён цяпер і падлічвае праз

тое страты. Канечне, страты князю выйшлі вялікія. Нічога не скажаш. Але золата яго мы не бралі. Бо не было дзе. Па золата трэба было выступаць з войскам на Слуцк, а то і на Вільню, дзе родавыя гнёзды Радзівілаў. Крычаўскія землі Геранім атрымаў ад караля на час. Таксама, як у арэнду, дарма што здаваў сам іх ліхвярам.

Максімовіч. У нас яшчэ будзе час пагаварыць, гетман. Ды і на камісіі сёе-тое давядзецца табе расказаць. Так што бывай. А сына твайго скажу, каб прывезлі з Почапа.

Старадубскі палкоўнік пакідае памяшканне. Вашчыла набліжаецца да акна, глядзіць праз яго, як рушыць у паход мясцовы полк.

## Карціна дваццатая

Турма ў Старадубе. Вашчыла з сынам Мартынам.

Вашчыла. Вось і пабачыліся, сынку. Можа, астатні раз...

Мартын. Тату, мне страшна.

Вашчыла. Цяпер табе няма чаго баяцца. Ад князя ты вызваліўся.

Мартын. За цябе мне страшна, тату.

Вашчыла. Усё ў ласцы Божай. Відаць, рускія яшчэ не рашылі, што са мной рабіць. Але я пакуль не разумею іх. Здаецца, іншы раз нібыта нават спачуваюць. Але такіх людзей, што стаяць за народ, нідзе, сынку, не шануюць. Ні там, у нас, у нашай зямлі, ні тут. Пакуль ім нейкая выгада ад мяне. Хоць ты яшчэ і малы, Мартынку, але слухай. Авось і ў тваім жыцці спатрэбіцца.

Мартын. Так, тату. Якаў прасіў перадаць табе, каб ты за нас не хваляваўся.

Вашчыла. Дзе ж вы цяпер жывяце?

Мартын. У аднаго почапскага дзядзькі. Нейкі Міколаў знаёмы.

Вашчыла. Дык ты бачыў сотніка?

Мартын. Ён нас і вывеў у Расію.

Вашчыла. Дзе ж ты быў датуль?

Мартын. Хаваўся ў папа.

Вашчыла. А Якаў?

Мартын. І Якаў з Анютай дзесь хаваліся. Нібыта ў Відуйцах. У тваёй жонкі. Нас звёў пасля сотнік.

Вашчыла. Яна мне не жонка яшчэ, сынку. Але магла стаць тваёй другой маці, каб усё склалася добра. Не пашанцавала нам, бо князь узяў верх.

Мартын. Мы думалі, што ты загінуў, пакуль не прыйшоў з Кіева сотнік.

Вашчыла. Ты сотніка слухайся.

Мартын. Ён кажа, што я таксама буду войтам.

Вашчыла. Думаеш, войтам быць лёгка? Заўсёды паміж князем і вясковым чалавекам трэба стаяць. Гэта як жорны, толькі і зважай, каб не расцерла, бы тое зярнятка. Але няхай, будзь войтам. А лепей за ўсё — будзь тым, кім станеш. І пра бацьку ніколі не забывай. Не кляні яго, сынку, што б пра яго ні гаварылі, што б праз яго табе ні выпала ў тваім сірочым жыцці. Вырасцеш — вяртайся ў стараства. Там нашы магілы — і дзедава, і бабчына. Схадзі ў Мурын Бор, пакланіся матчынай магіле. Прасі яе дараваць мне за ўсіх за вас. За вашы цяперашнія пакуты і за тыя, што будуць яшчэ.

Мартын. Добра, тату. *(Туліцца да бацькі.)* А мне можна з табой у мястэчка тое?

Вашчыла. Не, сынку. Ты павінен сцерагчыся злых людзей. Ды і не пусцяць цябе рускія туды. Як падрасцеш — трымайся добрых людзей. Куды яны — туды і табе трэба. Што пераказваў сотнік?

Мартын. Ён з Якавам больш гаварыў.

Вашчыла. Бо за малога цябе лічыць. Ты і ёсць малы. Сірата.

Мартын. У мяне ёсць ты, бацька. Чаму сірата? Пры жывым бацьку нават малы хлопчык не сірата. А я ж...

Вашчыла. Гэта я так, сынку. У вас жа там, у Почапе, усё ёсць? Ну, кормяць хоць? І не пад стражай вы? Жабраваць не даводзіцца?

М а р т ы н. Не.

В а ш ч ы л а. То і добра. Тут, у Старадубе, царыцу рускую чакаюць. Усе занятыя гэтым клопатам. Але я яшчэ пагавару пра вас.

М а р т ы н. Добра, татку.

В а ш ч ы л а. Пара табе, сынку, ісці. Час ужо.

Мартын пачынае плакаць.

*(Суцяшае.)* Не плач. Расці вялікі і дужы. *(Цалуе Мартына, той кідаецца яму на шыю. Ляскаючы ланцугамі, Вашчыла так і нясе сына праз усю камеру да дзвярэй. Кліча.)* Гэй, хто там? Вазьміце хлопца! *(Застаецца ў турме адзін.)*

## Карціна дваццаць першая

Карчма ў Старадубе. К а р ч м а р збіраецца несці ў турму вячэру. Заходзіць Ч о р н ы д з я ц ю к.

Ч о р н ы д з я ц ю к. Карчмар не есць тут свой абед?

К а р ч м а р. Калі ўжо быў той абед! Вячэраць пара. У турму вось нясу.

Ч о р н ы д з я ц ю к. Каму ж, калі не тайна?

К а р ч м а р. Прывезлі нейкага чалавека з Кіева. Вязуць у Мглін. Загадана насіць яму ў турму страву. А мне што, мне абы плацілі. Ну, а палкоўнік старадубскі, дзякаваць богу, пакуль плоціць спраўна. Скардзіцца грэх.

Ч о р н ы д з я ц ю к. Што за чалавек?

К а р ч м а р. Не ведаю. Пра гэта маўчаць нават стражнікі. Але ў кайданах увесь час – і калі спіць, і калі так сядзіць. Моцна ахоўваецца. Відаць, важны дзяржаўны злачынца, раз гэтак строга абыходзяцца з ім.

Карчмар адварочваецца, каб узяць штосьці на паліцы. Чорны дзяцюк выхоплівае з-за пазухі атруту, сыпле ў міску.

А ты, добры чалавек, не ў час. Зачыняю я карчму. Няма каму быць тут з табой.

Чорны дзяцюк. Думаеш, красці стану?

Карчмар. Ну, як знаеш. Зрэшты, можаш і праўда пасядзець, пакуль не вярнуся. Адкуль жа ты сам? Здаецца, першы раз у нас?

Чорны дзяцюк. Прыйшоў аж здалёку паглядзець на матухну імператрыцу.

Карчмар. Так, у Старадубе становіцца людна. Я вунь пакоі рыхтую. Гандаль пойдзе.

Чорны дзяцюк. Налі віно, карчмар, пакуль яшчэ не пайшоў. Я застануся тут. Памяну грэшную душу.

Карчмар. Чыю?

Чорны дзяцюк. Гэ-э, памянуць каго заўсёды ёсць. Грэшнікаў на зямлі хапае. Даруй нам, Госпадзі!.. *(П'е.)*

У Старадубе тым часам зазванілі на цэрквах званы.

Голас за сцэнай *(пад іх звон)*. Васіль Вашчыла, кіраўнік сялянскага паўстання на Магілёўшчыне, памёр у рускім горадзе Старадубе, у турме, дваццаць восьмага жніўня тысяча семсот сорак чацвёртага года. Радзівілаўскія камісары ажно тры разы прымушалі раскопваць ягоную магілу, не верачы да канца, што адважнага мсціўца за народныя пакуты не стала.

Следчая справа Вашчылы, якая вялася ў Кіеве, тым часам праляжала нікім не кранутая ў архіве былой Калегіі замежных спраў Расійскай імперыі дзвесце сорак гадоў. І вось мы цяпер упершыню перагарнулі яе, старонку за старонкай, аддаючы належнае паўстанцу. Да свяціцца яго імя!

*Канец драмы*